



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

3 красавіка 2020 года №14 (1301) 18+


# Я стаў лётчыкам у медыцыне

**Аляксей Бурэц – доктар у трэцім пакаленні. Ён адвучыўся і працаваў у Беларусі анестэзіёлагам-рэаніматолагам, але апошнія гады працуе ў Германіі. Аляксей распавёў, як паступіць на бясплатнае ў медыцынскі ўніверсітэт, пра максімум адпрацаваных гадзін за месяц, чаму пераехаў у іншую краіну і што раіць з нагоды каранавіруса.**



старонкі 18-19

Фота забяспечанае Аляксеем БУРЦОМ.

**Маладзечанкі расказалі, як працуюць ва ўмовах пандэміі**

старонка 3

**«Мы ж не ў Італіі». Што думаюць вяскоўцы з Вілейшчыны пра каранавірус**

старонка 2

**6 красавіка – 110 год навукоўцу і грамадскаму дзеячу Барысу Кіту**

старонка 4




ISSN 1991–7155





Адсканупуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



Рыбакі на рацэ Іліі ў Вязыні.

# «Мы ж не ў Італіі». Што адбываецца ў вёсках падчас пандэміі каранавіруса

**Карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» 26 сакавіка з'ездзілі ў вёскі на Вілейшчыне, каб высветліць, ці хвалюе мясцовых жыхароў пандэмія каранавіруснай інфекцыі.**

### «Мыю рукі сабе і дачцэ»

У Вязыні пасля абеду – спакойны дзень. Людзі вяртаюцца з працы, маладыя мамы гуляюць з дзецьмі, а на стадыёне бегаюць дзяўчаткі. На калодзежы каля крамы вісіць аб'ява: «Вядзецца вакцынацыя супраць грыпу, звяртайцеся да доктара ў амбулаторыю».

«РГ» паразмаўляла з **Настассяй**, якая гуляла па Вязыні разам з двухгадовай дачкой **Дамінікай**. Жанчына кажа, што ў вёсцы ніхто каранавіруса не баіцца. Сама Настасся бачыць шмат навін пра захворванне па тэлевізары і ў інтэрнэце.

– Прыходзім з вуліцы, мыю рукі сабе і дачцэ. Нічога спецыяльнага не рабілі. Толькі хадзілі ў амбулаторыю і рабілі прышчэпкі.

### «На рабоце пра каранавірус нічога не кажуць»

Каля вязынскага калгаса сустракаем **Уладзіміра Грыпініча**. Уладзімір 28 гадоў працуе трактарыстам у мясцовай гаспадарцы. Ён падзяляўся, якія меры прымае супраць COVID-19:

– Я не баюся, але рукі і твар мыю, нават ноздры прамываю. Дамашнія таксама ўсё гэта робяць.

Па словах Грыпініча, на каранавірус хварэюць людзі сталага ўзросту, таму ён і не хвалюецца.

– Ведаеце, тут бы да пенсіі дажыць, узрост усё падымаюць і падымаюць. Што гэты каранавірус!

### Вязынскія рыбакі

На мосце на Іліі ў Вязыні побач з царквой шматлюдна. Рыбакі з раніцы займаюць лепшыя месцы, каб злавіць пабольш рыбы. Мужчыны паказваюць улоў, але перапытваюць:

– А вы праўда прэса? Не пасадзіце нас?

Адзін з рыбакоў адказаў, што сядзіць на мосце ад раніцы, а пасля абеду людзей стала менш. Ён падзяліўся меркаваннем наконт пандэміі каранавіруса ў свеце:

– А чаго мне баяцца? Мы ж не ў Італіі, дзе ўсе паміраюць.

### У Асцюковічах рыхтуюцца да лета

На трасе з Вязыні да Ілы знаходзіцца вёска Асцюковічы. У першым двары працуюць двое мужчын – **Іван Булко** і **Аляксандр Непакупны**. Іван жыве ў Мінску, месяц таму памерла сваячка, а за домам і жыўнасцю трэба ж дагледзець. Таму ён стаў часта прыязджаць, а цяпер узяўся разам з суседам **Аляксандрам** за сад.



Каля фермы ў Вязыні.

Іван і Аляксандр кажуць, што з-за каранавіруснай інфекцыі яны не хвалююцца.

– Каранавіруса мы не баімся. Няма часу, іншыя справы ёсць, – тлумачыць Іван.

Па словах мужчын, людзей павінна турбаваць адсутнасць працы і маленькія зарплаты. Аляксандр прыводзіць прыклад знаёмай, якая ездзіць на працу ў Мінск з Асцюковічаў кожны дзень. Усё з-за таго, што ў вёсцы нічога не заробіш, а ў сталіцы атрымаеш за працу ў некалькі разоў больш.

– Паглядзіце на вёску. Тут дзве-тры хаты, у якіх яшчэ жывуць людзі. І ўсе сталыя. Маладыя з'язджаюць, ім тут няма чаго рабіць. Людзей не каранавірус хвалюе, а праца.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Нашы суразмоўцы лічаць анлайн-навучанне прымальнай ініцыятывай ва ўмовах пандэміі.

# Як каранавірус паўплываў на працу маладзечанцаў

МАЛАДЗЕЧНА

**У сувязі з пандэміяй каранавіруса змяніўся рэжым працы некаторых устаноў у рэгіёне. Адны цалкам сышлі ў анлайн, іншыя працуюць ужывую, але адзначаюць, што кліентаў стала менш.**

### Выкладчыца польскай мовы: добра, што не засталася без працы ў цяжкі час

Маладзечанка **Алеся** чатыры гады выкладае польскую мову дарослым і падлеткам. Працуе ў прыватным адукацыйным цэнтры ў Мінску, дзе да гэтага яе заняткі былі толькі ўжывую.

– У цэнтры заўсёды была паслуга «навучанне праз скайп», і мне часта прапаноўвалі ўзяць вучня і займацца з ім па скайпе індывідуальна. Але я адмаўлялася, бо люблю кантактаваць ужывую, – дзеліцца Алеся.

Але цяпер з-за неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкі ўжо трэці тыдзень выкладчыца са сваімі вучнямі працуе выключна анлайн. Цэнтр выкупіў выкладчыкам платны доступ да платформы Зум, навучылі ёй карыстацца. Хаця і дагэтуль выкладчыкі вучацца на хаду і часам у чаце з'яўляюцца фразы тыпу «О! А што гэта за кнопачка?».

– Хаця першыя заняткі быў «касячныя», – прызнаецца суразмоўца. – Пакуль кожны наладзіў гук, экран, пацiскаў усе кнопачкі. Нас некалькі разоў выкідала, даводзілася ўсё пачынаць наноў. Але далей пайшло вельмі добра. Я купіла навушнікі з мікрафонам, бо мне важна чуць выразнае маўленне.

Выкладчыцы цяпер трэба даўжэй рыхтавацца да заняткаў. У яе да кожнай тэмы ёсць карткі, карцінкі, праверачныя работы. Але гэта ўсё на паперы. Цяпер раздатачны матэрыял трэба пераводзіць у электронны выгляд, праверачныя работы ствараць на спецыяльных анлайнавых платформах. Але Алеся не бядуе, бо разумее: напрацоўвае сабе базу матэрыялаў, якой будзе карыстацца пасля.

– Вялікі плюс, што выкладчыкі не засталіся без працы ў гэты цяжкі час. Заўсёды будуць тыя, хто захоча вывучыць мову анлайн. А інтэрнэт не мае межаў. Ужо цяпер у мяне набіраецца анлайн-група, дзе будуць людзі з Беларусі, Расіі, Польшчы, – кажа выкладчыца.

Па яе словах, заняткі сталі больш дамашнімі. Вучні ўключаюць відэа, і Алеся бачыць, як нехта сядзіць у абдымку з падушкай, у кагосьці на заднім плане мільгае кот, нехта п'е каву.

– Вядома, вучням цяжэй сканцэнтравацца на занятках, калі яны сядзяць дома, асабліва падлеткам. Вялікая спакуса падчас такіх заняткаў цішком гартаць стужку інстаграма. Але агулам усе ставяцца з паразуменнем. Лічаць, што лепш займацца анлайн, чым прыпыняць заняткі.

### Адукацыйны цэнтр: анлайн прынялі і студэнты, і выкладчыкі

Некалькі дзён таму цалкам сышоў у анлайн і адукацыйны цэнтр у Маладзечне. Заснавальнікі распавялі, што робяць гэта дзеля сваіх супрацоўнікаў і вучняў. Офіс зачынілі ад 1 красавіка.

– Пакуль не ўсе групы паспрабавалі займацца дыстанцыйна. Але сярод тых, хто спрабаваў, негатыву не было. Толькі адна жанчына сказала, што не зможа ўдзельнічаць, бо надоўга з'язджае на лецішча, дзе не будзе інтэрнэту, – кажа сузаснавальніца адукацыйнага цэнтра **Валянціна Сідоркіна**.

Па словах Валянціны, яна гутарыла і з выкладчыкамі, і з вучнямі. Нараканняў няма. Усе лічаць анлайн прымальнай ініцыятывай.

– Ні выкладчыкі, ні мы самі не ўмелі працаваць у праграме Зум. А цяпер разабраліся, вывучылі. Часам знаходзім нейкія новыя функцыі. Запісваем відэа для настаўнікаў, як карыстацца. Для працы набылі два платныя акаўнты ў праграме Зум, – расказала Валянціна.

### Турфірма: турысты ўжо цікавяцца Затокай і Адэсай

Мы таксама звязаліся з адной турыстычнай фірмай у Маладзечне і распыталі, наколькі пандэмія паўплывала на іх працу. Па словах супрацоўнікаў, замоў стала крыху менш. Але фірма па-ранейшаму працуе.

– Людзі менш цікавяцца еўрапейскімі краінамі, але ўжо пачынаюць распытваць пра адпачынак ва Украіне: Адэсе, Затоцы, Коблеве. Турыстычны сезон у гэтых мясцінах пачынаецца ад сярэдзіны чэрвеня. Часу яшчэ шмат. Спадзяёмся, што за месяц-другі межы адкрыюцца, – распавялі тут.

У турфірме прагназуюць, што якраз украінскія курорты будуць сёлета больш папулярнымі. Гэта і даступна, і больш бяспечна.

Як распавялі работнікі, замовы ва Украіну ўжо ёсць. Кліентаў прываблівае тое, што бронь робіцца без перадаплаты і што ранняе браніраванне гарантуе крыху ніжэйшыя цэны.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.03 | 2.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5789 | **2.5973** |
| Еўра | 2.7904 | **2.8478** |
| Злоты, 10 | 6.0996 | **6.2064** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3242 | **3.2869** |
| Грыўня, 100 | 9.2310 | **9.3713** |

| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 25.03 | 1.04 |
|---|---|---|
| Еўра | 2.7500/2.8800 | **2.7700/2.8600** |
| Долар ЗША | 2.5500/2.6500 | **2.5700/2.6500** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.03 | 1.04 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,88 | **23,06** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,78 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **16,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,95 | **1,95** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **2,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **2,90** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **6,90** |
| Радыс, пучок | 5,80 | **4,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,90 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **7,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,80 | **4,95** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 13,50 | **13,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | **7,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Чарнаслiў б/к, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **1,99** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## На пажары загінула жанчына

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне пры пажары загінула жанчына, а мужчына ў цяжкім стане знаходзіцца ў раённай бальніцы. Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведаміла інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

30 сакавіка ў 22:19 у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паведамілі пра загаранне жылога дома па Першым Рабочым завулку ў Маладзечне.

Выратавальнікам, што прыбылі на месца здарэння, відавочцы расказалі, што ў доме можа быць чалавек.

У 22:35 пры тушэнні пажару знайшлі на падлозе ў жылым пакоі жанчыну без прыкмет жыцця. Выратавальнікі вынеслі яе на свежае паветра і перадалі брыгадзе «хуткай дапамогі» для рэанімацыі. Праз дзве хвіліны медыкі канстатавалі смерць жанчыны. Пазней высветлілася, што гэта знаёмая брата гаспадыні.

Дом належаў пенсіянерцы, якая жыве ў Маладзечне па вуліцы Будаўнікоў. Вядома ўжо, што аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка не было. Дом у 2018 годзе адключылі ад электразабеспячэння, бо ніхто не плаціў за святло.

Да прыбыцця падраздзяленняў МНС брат гаспадыні самастойна пакінуў дом. Ён жыў у гэтым доме з дазволу сястры.

Яго з папярэднім дыягназам «атручэнне прадуктамі гарэння» «хуткая дапамога» даставіла ў рэанімацыю Маладзечанскай ЦРБ. Ён у свядомасці, стан цяжкі.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні.

У выніку пажару агнём пашкоджаны маёмасць і сцены ў жылых пакоях і калідоры.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мужчына атруціўся аміякам, калі рамантаваў халадзільнік

**МАЛАДЗЕЧНА**

31 сакавіка ў 11:28 выратавальнікам паступіла паведамленне аб шпіталізацыі з атручэннем парай аміяку машыніста аміячнай халадзільнай установкі.

Па папярэдніх дадзеных, ён планава мяняў паліўны фільтр кампрэсара халадзільнай установкі ў будынку кампрэсарнай на тэрыторыі прадпрыемства ў пасёлку Сасновы Бор.

Тэхналагічны працэс прадпрыемства не парушаны. Прычына здарэння высвятляецца. Разгляданая версія – выпарэнне рэшткаў аміяку з фільтра.

**Паводле МНС.**

## Пажар здарыўся з-за курэння

**АШМЯНЫ**

31 сакавіка каля 23:00 жыхарка Ашмянаў паведаміла ў службу 101 аб задымленні ў пад'ездзе пяціпавярховага дома па вуліцы Усходняй.

Калі прыехалі выратавальнікі, дым запаўняў лесвічную пляцоўку. Пры правядзенні разведкі высветлілася, што крыніца ўзгарання знаходзіцца ў двухпакаёвай кватэры, дзе жыве 53-гадовы мужчына.

Калі пачаўся пажар, гаспадар быў дома. Але да прыбыцця падраздзяленняў МНС самастойна выйшаў з кватэры. Мужчыну шпіталізавалі ў бальніцу з папярэднім дыягназам «атручэнне прадуктамі гарэння».

Выратавальнікі ліквідавалі ўзгаранне і не дапусцілі распаўсюджвання полымя па ўсёй кватэры. Агонь пашкодзіў пасцель.

Мяркуюць, прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.

**Паводле МНС.**

## Асудзілі за лжывае паведамленне пра мініраванне школ

26 сакавіка суд Маладзечанскага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачанні маладзечанца ў лжывым паведамленні пра замініраванне, паведамляе прэс-служба Мінскага абласнога суда.

Абвінавачаны, знаходзячыся дома ў стане алкагольнага ап'янення, з мабільніка патэлефанаваў у апэратыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАНС. Ён паведаміў, што яму нібыта невядомая жанчына патэлефанавала і сказала пра тое, што рыхтуецца выбух ў навучальных установах Маладзечна, пры гэтым заведама ўсведамляючы, што звесткі несапраўдныя.

Суд прызнаў мужчыну вінаватым у заведама лжывым паведамленні пра выбух і прызначыў пакаранне ў выглядзе арышту на два месяцы. Таксама абвінавачаны будзе прымусова лячыцца ад хранічнага алкагалізму.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Паводле Мінскага абласнога суда.**



Фота забяспечанае Сяргеем БАРТОШАМ.

На месцы здарэння.

# Кіроўцу выкінула з машыны, ён загінуў на месцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Аварыя адбылася 26 сакавіка каля 9:30 на аўтадарозе Маладзечна-Валожын.**

60-гадовы кіроўца ехаў у бок Маладзечна ў раёне Цюрлёў. На закругленні дарогі ўлева выехаў на правую абочыну, затым выехаў на сустрэчную паласу. Пасля гэтага кіроўца з'ехаў у кювет.

Машына ў кювеце перакулілася, а мужчыну выкінула з аўтамабіля. Ён загінуў на месцы.

Загінулы не быў прышпілены, удакладняе дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**. Рамяні бяспекі маглі б выратаваць чалавеку жыццё.

Следчы камітэт праводзіць праверку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як махляры выкарыстоўваюць тэму каранавіруса

У Маладзечанскім РАУС паведамляюць, што апошнім часам махляры выкарыстоўваюць тэму каранавіруса. І ад гэтага цярпяць людзі.

Ахвярамі часцей становяцца пенсіянеры, якія часта вераць на слова і не патрабуюць дакументаў. Такія выпадкі ўжо ёсць у суседніх краінах. Не выключаныя яны і ў нас.

Спосабы махлярства розныя. Людзі гатовыя марнаваць грошы, прычым, не задумваючыся пра сумы, калі ім абяцаюць медыцынскія маскі, прэпараты і прыборы, якія могуць не толькі засцерагчы, але і вылечыць, калі чалавек ужо заразіўся.

Галоўнае для махляроў, гэта патрапіць у дом і напалохаць гаспадара хваробай. А пасля прапанаваць «надзейны сродак» прафілактыкі і лячэння.

Што прапануюць?

- «дэфіцытныя і зніклыя з усіх аптэк» медыцынскія маскі, значна даражэйшыя за іх рэальны кошт;
- розныя таблеткі і вакцыны, якія могуць быць небяспечныя для здароўя;
- біялагічна-актыўныя дабаўкі да ежы, якія ўмацоўваюць імунітэт;
- прапануюць платна прадэзінфікаваць усе пакоі;
- выманьваюць грошы і бескантактным спосабам:
- на падставе пералічэння сродкаў ад імя розных арганізацый і ўстаноў ашуканцы атрымліваюць персанальныя дадзеныя ўладальнікаў банкаўскіх картак і пераводзяць уже іх грошы на свае рахункі;
- у інтэрнэце з'явіліся ашуканскія крамы, вэбсайты, уліковыя запісы ў сацсетках, якія сцвярджаюць, што яны прадаюць розныя медыцынскія тавары ад масак і дэзраствору да вакцын і таблетак, але замест атрымання абяцаных тавараў людзі губляюць грошы.

Калі да вас звярнуліся з падобнымі прапановамі, не спяшаецеся іх прымаць, не пераканаўшыся ў асобах «памочнікаў». Пра незнаёмцаў паведамляйце ў Маладзечанскі РАУС па тэлефоне **(8 0176) 77-16-56** альбо **102**.

**Юлія КРУК,**
**афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**

## Аўтамабіль збіў насмерць адразу трох дзікоў

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося ўвечары 27 сакавіка на трасе Р28 Маладзечна-Любань.

Падчас сустрэчнага раз'езду з іншай машынай кіроўца «Джылі» не заўважыў трох дзікоў, якія пераходзілі дарогу. Мужчына затармазіў, аднак аўтамабіль усё роўна сутыкнуўся з жывёламі, паведамляюць у Вілейскім РАУС.

У выніку ўсе дзікі загінулі на месцы. Кіроўца не пацярпеў, у аўтамабіля – механічныя пашкоджанні. Трупы жывёл перадалі прадстаўніку Таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На вуліцы Гагарына гарэў аўтамабіль

**ВІЛЕЙКА**

Пра тое, што на вуліцы Гагарына гарыць аўтамабіль у двары шматкватэрнага дома, вілейскім выратавальнікам паведамілі 28 сакавіка ў 23:00.

Як расказалі ў Вілейскім РАНС, узгаранне адбылося ў маторным адсеку. Выратавальнікі хутка патушылі яго. Таму агонь пашкодзіў толькі маторны адсек. Па словах гаспадароў, машыну яны паставілі ў двары 28 сакавіка каля 16:00. Ад гэтага часу ёй не карысталіся.

Дакладную прычыну пажару высвятляюць. Мяркуюць, што ўзгаранне адбылося з-за кароткага замыкання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як атрымаць новы смартфон дзякуючы экалогіі

**А яшчэ экалагічна сяброўскія звычкі – магчымасць зэканоміць сямейны бюджэт. І не на пару рублёў, а так, што за год можна спакойна назбіраць на новы смартфон. Як? Разбіраемся разам!**

### Карыстайцеся сваёй тарай

Гэта самы відавочны від эканоміі. Калі мы купляем, напрыклад, расфасаваныя курыныя крыльцы, то плацім дадатковыя грошы за кантэйнер. Калі тыя ж крыльцы набываць на вагу, можна зэканоміць у сярэднім 30 капеек на адной пакупцы.

Да таго ж зусім хутка беларускае заканадаўства стане больш лаяльным да пакупнікоў, якія гатовыя набываць прадукцыю на вагу ў сваю тару. Абноўленыя санітарна-эпідэміялагічныя нормы дазволяць прыходзіць у краму са сваім шматразовым кантэйнерам і не прыносіць дамоў лішняе смецце.

Па інфармацыі Greenpeace, у свеце кожную хвіліну прадаюць адзін мільён фасовачных пакетаў. І кожны з іх будзе раскладацца каля 500 гадоў. Таму для вас як пакупніка яны будуць бясплатныя, але прыродзе будуць каштаваць вельмі дорага.

Замест пакетаў многія прадукты лепш набываць у фруктоўніцы – палатняных торбачках розных памераў з завязкамі, якія можна выкарыстоўваць шмат гадоў.

### Адмоўцеся ад пластыкавых пакетаў

Калі тонкія фасовачныя пакеты найчасцей мы можам узяць бясплатна, то ўжо за вялікія пакеты-майкі давядзецца заплаціць каля 10 капеек. Не так і шмат на першы погляд.

Але калі палічыць, што ў краму мы ходзім два-тры разы на тыдзень і рэгулярна набываем новую «майку», то за год набягае кругленькая сума – каля 15 рублёў.

Замест пластыкавых пакетаў аптымальна выкарыстоўваць палатняную торбу. Яна не толькі вытрымлівае большую вагу, але і больш зручная – яе можна несці на плячы.

### Не пакідайце прыборы ў рэжыме чакання

Чырвоная лямпачка, што свеціцца ў тэлевізары, камп'ютары, мікрахвалёўцы ці прынтары дазваляе нам хутка ўключыць прыбор. За гэта мы і любім рэжым чакання.

Але ж лямпачка гарыць – і прыбор выкарыстоўвае электраэнергію. Вядома, не ў такім аб'ёме, як ва ўключаным рэжыме, але і яе можна падлічыць.

Па дадзеных брытанскай кампаніі EDF Energy, калі ваш 32-цалёвы тэлевізар будзе стаяць у рэжыме чакання цэлы год, то спажыве 1,6 Вт электраэнергіі. Лічба будзе адрознівацца ў залежнасці ад мадэлі тэлевізара.

Калі дадаць да яго іншыя прыборы, якія ў нашым доме знаходзяцца ў рэжыме чакання, то за год набягае нечакана вялікая сума.

### Прадавайце непатрэбныя рэчы

Праводзячы вясеннюю прыборку, збярыце ў кучу тыя рэчы, якімі не карысталіся апошнія некалькі гадоў. Многія з іх могуць быць патрэбныя іншым, а вам дапамогуць папоўніць сямейны бюджэт. Інтэрнэт-барахолкі, камісійныя і букіністычныя магазіны, групы ў сацсетках – варыянтаў для продажу ўжываных рэчаў шмат.

Гэты прынцып працуе ў два бакі: калі недзе вы можаце прадаць, то там жа зможаце і набыць тое, што трэба вам. Часам за сімвалічныя грошы на інтэрнэт-барахолках можна набыць якасныя дарагія рэчы. Дзякуючы гэтаму вы атрымаеце ў скарбонку некалькі дзясяткаў ці нават сотняў рублёў.



Фота забяспечанае Аляксандрай ПАРАХНЁЙ.

Экаактывіст з Маладзечна Алеся Птушка склала парады, як можна зэканоміць на экалагічных бытавых звычках.

### Перагледзьце бытавую хімію

Падчас прыборкі мы ўдыхаем бытавую хімію, дакранаемся да яе рукамі. Многія сродкі змываем не да канца і працягваем удыхаць іх далей.

Такія простыя рэчы з кухні нашых бабуляў, як сода, воцат і гаспадарчае мыла, не толькі прыбяруць лепш за некаторыя раскручаныя сродкі і будуць бяспечнымі для здароўя, але і сур'ёзна зэканомяць грошы.

**Алеся ПТУШКА.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706,(8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• **2-ПАКАЕВАЯ КВАТЭРА Ў МІНСКУ.** Т. (8-029) 3110005.

• Дача ў Лазаўцы, кааператыў «Крышталь-2009». т. (8-029) 2644252.*

• Дача ў СТ «Фазэнда» Мясоцкага с/савета. Т. (8-029) 3631225, (8-029) 2514805.

• Дом 53 кв. м, 6 сотак, побач лес, рака, Вілейскае вадасховішча, Стаўкі. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5768658.*

• Дом 90 кв.м з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Шчапанавічы Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці. Т. А1 (8-029) 9664572 Вайбер.

• Дом з участкам каля возера Рудакова. Рэно-Твінга, 1994 г.в. Т. МТС (8-029) 5305446.

• Дом у аграгарадку Гальшаны па вул. Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900.*

• Дом у вёсцы Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак, гаспадарчыя пабудовы. Т. МТС (8-029) 7674753 Вольга.*

• Дом у вёсцы Пекары Маладзечанскага раёна. Т. (8-044) 5505635.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7667446.*

• Дом у Вілейцы, 45 кв.м, драўляны гаспадарчыя пабудовы, пячное ацяпленне, калодзеж, 13 сотак зямлі. Т. (8-033) 6671169.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), пламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (свкажын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (свкажын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вагонка для лазні, паліц, вольха, дошкі для падлогі, паганажныя вырабы, брускі і інш. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029)1891477, (8-029)2518322.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ.** ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка: аўтадыскі, рамы бусаў, металаканструкцыі, металавырабы. ПУП «Дойлід-С» УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына-аўтамат Candy, як новая, нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

• Казляняты ад пародзістых коз. Т. (8-029) 6671187.

• Пчолы з вуллямі. Т. (8-029) 3631225, (8-025) 2514805.

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі чыстакроўныя. Т. (8-029) 9106184.*

**Іншае**

• Дровы – бяроза, 2 машыны. Самавываз. Вілейскі раён, в. Нясцёркі. Т. (8-033) 6915981.*

• **УНІВЕРСАЛЬНЫ ФУГАВАЛЬНЫ ВАЛ НОВЫ. Т. (8-029) 9430353.***

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прадавец у а.г. Палачаны. Прыстойнасць, адказнасць, з/п аклад + прэміі. Т. (8-029) 6383331.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |




Фота забяспечанае Віктарам ШНІПОМ.

Віктар Шніп і Валянціна Шніп у Пугачах.

# Памерла заслужаная настаўніца Валянціна Шніп

ВАЛОЖЫН

**Пра гэта паведаміў ураджэнец вёскі Пугачы, пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп.**

– Валянціна Іосіфаўна была стрыечнай сястрой маёй мамы, – кажа Віктар Анатольевіч. – Вучыла мяне ў школе беларускай мове і літаратуры.

> **Гэта ад Валянціны Іосіфаўны я, 12-гадовы хлапчук, на адным з урокаў пачуў, што ў дзесяці кіламетрах ад Пугачоў, у Вязынцы, нарадзіўся Янка Купала. Дачакаўшыся летніх канікулаў, я панёс Купалу свае вершы.**

Пісьменнік прыгадвае, што неяк пры сустрэчы ў Пугачах настаўніца ўзгадала, што я добра пісаў сачыненні і некаторыя з іх у яе захоўваюцца. «Я так і думала, што з цябе нешта творчае павінна атрымацца», сказала яна тады.

Валянціна Іосіфаўна Шніп была заслужанай настаўніцай Беларусі, найстарэйшай жыхаркай вёскі Пугачы. Яна нарадзілася ў 1927 годзе. На настаўніцу вучылася ў інстытуце ў Гродне. Усё жыццё пражыла ў Пугачах. У мясцовай школе адпрацавала больш за сорак гадоў.

> **Сваю настаўніцу Віктар Анатольевіч неаднойчы згадваў у кнігах «Заўтра была адліга» і «Пугачоўскі цырульнік».**

Вось некаторыя вытрымкі:

«10.07.2011. У Ракаве на доме **Вячаслава Рагойшы** дзякуючы раённым уладам, скульптару **Івану Міско** і самому Вячаславу Пятровічу была адкрытая мемарыяльная дошка з надпісам: «Гэты дом часта па-сяброўску наведваў класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч». Пасля ўрачыстасці Рагойша падышоў да мяне і сказаў: «Караткевіч глядзіць у бок тваіх Пугачоў!». «І не дзіўна, што глядзіць у бок Пугачоў, бо ён там хоць і адзін раз, але ўсёткі бываў», – адказаў я, памятаючы тое, што мне расказвала мая цётка Валянціна Іосіфаўна, у якой, працуючы ў Пугачоўскай школе, жыў будучы доктар філалагічных навук **Павел Дзюбайла** і да якога з Радашковічаў часта ў госці прыходзіў супрацоўнік раённай газеты **Адам Мальдзіс**. Дзякуючы Мальдзісу Караткевіч і быў у Пугачах…».

«15.10.2011. Ідучы з крамы, спыняюся каля агарода Валянціны Іосіфаўны, маёй сваячніцы, былой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры. Цётцы ўжо 83 гады. Жыве адна. Скарджуся цётцы, што ў бацькавай хаце холадна. «А я пломбу сарвала і падключыла ацяпленне! Няхай штрафуюць!» – кажа Валянціна Іосіфаўна і распытваецца пра маё жыццё-быццё. Развітваючыся, думаю падысці да плота, за якім цётка, і пацалаваць яе на развітанне, але чамусьці не падыходжу. Цяпер шкадую, што не падышоў…».

«27.11.2017. Патэлефанаваў сваяк, **Анатоль Блашчыцын**. Быў у Пугачах. Сказаў, што мая хата стаіць на месцы. Ад яго даведаўся, што сёння маёй дваюраднай цётцы Валянціне Іосіфаўне 90 гадоў. Павіншаваў бы, ды яна ў Пугачах цяпер не жыве, а ў дачкі пад Валожынам. Збіраюцца святкаваць на выхадныя юбілей…».

> **Валянціне Іосіфаўне было 92 гады. Пахавалі яе 27 сакавіка на могілках у Дубровах, побач з мужам.**

«Рэгіянальная газета» выказвае спачуванні родным і блізкім Валянціны Іосіфаўны Шніп.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Інспектары правяралі парковачныя месцы для аўтамабіляў людзей з інваліднасцю.

# «Часам кіроўцы свядома ігнаруюць правілы». Як прайшоў рэйд «РГ» з маладзечанскай ДАІ

**Супрацоўнікі ДАІ 27 сакавіка правялі рэйд у рамках прафілактычнай акцыі, накіраванай на прыцягненне ўвагі да парушальнікаў ПДР пры паркоўцы транспартных сродкаў на месцах, прадугледжаных для стаянкі аўтамабіляў людзей з інваліднасцю.**

### Як прайшоў рэйд маладзечанскай ДАІ

Па словах інспектараў, часам кіроўцы свядома ігнаруюць правілы і паркуюць аўтамабілі на месцах для людзей з інваліднасцю. Часта гэта адбываецца на паркоўках каля крамаў. Таму інспектары ДАІ вырашылі адпрацаваць паркоўку каля Е-Сіці па вуліцы Будаўнікоў – гэта адна з буйных крамаў Маладзечна.

Інспектары ДАІ правялі размовы з двума кіроўцамі, якія парушылі правілы дарожнага руху. Маёр **Сяргей Бартош** заўважыў у аднаго з кіроўцаў, які стаў на парковачнае месца для людзей з інваліднасцю, на заднім сядзенні дзяцей, якіх прышпілілі па ўсіх правілах. Аднак за парушэнне правілаў паркоўкі ўсё ж прыйшлося адказаць.

У трох кіроўцаў былі пасведчанні аб інваліднасці. Адна жанчына, у якой інспектары правяралі дакументы, падзякавала супрацоўнікам ДАІ. Яна распавяла, што цяпер месцы для інвалідаў пастаянна займаюць і няма куды паставіць аўтамабіль.

### Што трэба ведаць пра парковачныя месцы для людзей з інваліднасцю

Такое месца прыкладна ў паўтара раза шырэйшае, чым звычайна – 3,5 метра супраць 2,5. Месца пазначаецца адпаведным знакам. А размяшчаюцца яны бліжэй да ўвахода, каб скараціць шлях.

Апазнавальныя знакі,налепкі на аўто, можна прымацоўваць па жаданні кіроўцы, яны неабавязковыя.



Інспектар правярае дакументы кіроўцы.

### Які штраф, калі прыпаркаваўся на месцы для людзей з інваліднасцю

Калі вы прыпаркаваліся на месца для людзей з інваліднасцю і ў вас няма групы інваліднасці, то вы парушаеце заканадаўства – ч.2 арт.18.22 КаАП Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з артыкулам, «за неправамерную стаянку транспартнага сродку на месцы, адведзеным для стаянкі транспартных сродкаў інвалідаў», штраф складае дзве базавыя велічыні. Цяпер гэта 54 рублі.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Не радзіся прыгожай»

Фота sonypicturestelevision.ru.

У ролі Пушкаровай знялася Нэлі Уварава, а Жданава сыграў Рыгор Анціпенка.

**Расійскі камедыйна-меладраматычны тэлесерыял, які паказвалі ад 2005 да 2006 года. «Не радзіся прыгожай» з'яўляецца адаптацыяй калумбійскай тэленавелы Yo soy Betty, la fea («Я – Бэці, непрыгожая»).**

Серыял стаў адным з самых папулярных у сярэдзіне 2000-х і значна павысіў рэйтынг каналаў, якія транслiравалі яго.

### Сюжэт

Каця – дзяўчына разумная і адукаваная, але непрывабная. Гэта акалічнасць перашкаджае ёй знайсці добрую працу. У Каці атрымалася ўладкавацца сакратаром у фірму па вытворчасці моднага адзення Zimaletto. Але і тут яе знешні выгляд, а таксама адданасць начальніку Андрэю Жданаву выклікаюць непрыманне ў іншых работнікаў фірмы. Нявеста Андрэя Кіра недалюблівае Кацю за тое, што яна пакрывае здрады Жданава, сяброўка Кіры Віка – што абышла яе пры прыёме на работу. Дызайнер Мілка – за тое, што яна сваім выглядам абражае яго пачуццё прыгожага.

Каця закахалася ў Андрэя і дзеля яго гатовая цярпець усё. Яна спадзяецца, што яе выбраннік аднойчы адкажа ёй узаемнасцю. Справы кампаніі ідуць дрэнна, і Андрэю, каб схаваць гэта, патрабуецца дапамога Каці. Пазней ва ўцягнутых у падман віцэ-прэзідэнта кампаніі Рамана Маліноўскага ўзнікаюць сумневы ў Кацінай вернасці, і, каб яна іх не падманула, Маліноўскі ўгаворвае Андрэя разыграць каханне з сакратаркай. Андрэй вымушаны пагадзіцца, але паступова і сам улюбляецца ў шчырую і адданую дзяўчыну.

Даведаўшыся, што каханне Андрэя – гэта гульня, Каця раскрывае ўсе яго махінацыі перад членамі савета дырэктараў і звальняецца. Былая супрацоўніца Zimaletto Юльяна бярэ Кацю на працу ў сваё піяр-агенцтва. Юльяна, а таксама іншыя новыя знаёмыя Каці дапамагаюць ёй змяніцца. Нечакана да яе звяртаецца адзін з заснавальнікаў Zimaletto, бацька Андрэя: у выніку махінацый яго сына Каця фактычна стала ўладальніцай кампаніі. Ён прапануе дзяўчыне заняць пасаду прэзідэнта, бо іншыя кандыдаты з гэтай пасадай не справіліся.

### Цікавыя факты

У якасці фасада будынка Zimaletto быў зняты фасад бізнес-цэнтра «Вежа 2000», які ўваходзіць у комплекс «Масква-Сіці». Здымкі серыяла праходзілі ў здымачных павільёнах кампаніі «Амедыя».

Першапачаткова музычным фонам застаўкі была песня Юліі Савічавай «Калі ў сэрцы жыве каханне», якая хутка стала хітом, трапіўшы ў ратацыі многіх радыёстанцый СНД. Ад 169 серыі музычным фонам застаўкі стала песня Алёны Высоцкай «Бачу цябе». У апошняй серыі песню «Калі ў сэрцы жыве каханне» спявалі па чарзе галоўныя героі серыяла.

Паглядзець серыял можна на тэлеканале «Беларусь 2».

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.45, 18.15, 21.00, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.15** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.35, 16.00, 18.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«ПАСПОРТ».**
**9.25, 19.55** Т/с **«ТЬМА».**
**10.25** Д/ф «МИЛЛИОН ВОПРОСОВ О ПРИРОДЕ».
**10.40** Х/ф **«ЗОЛОТОЕ КОЛЬЦО».**
**13.00, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.30** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.20** Х/ф **«БЕГУЩИЙ В ЛАБИРИНТЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Герои комиксов на экране». «Новая эра Z».
**23.00** Х/ф **«СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**

### ВТОРНИК, 7 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.45, 18.15, 21.05, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.30, 16.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«МУМИЯ».**
**9.40, 19.55** Т/с **«ТЬМА».**
**10.35** Д/ф «МИЛЛИОН ВОПРОСОВ О ПРИРОДЕ».
**10.50** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**
**13.05, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.35** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.40** Х/ф **«ГРЕЦКИЙ ОРЕШЕК».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАРАЖЕНИЕ».**
**22.50** Х/ф **«ТАК БЛИЗКО К ГОРИЗОНТУ».**

### СРЕДА, 8 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.50, 18.15, 21.00, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Удивительный мир Гамбола».
**7.20, 15.55, 18.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.25** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОГАТЫРЬ».**
**9.15, 19.55** Т/с **«ТЬМА».**
**10.15** «Законы привлекательности».
**11.05** Х/ф **«ТАК БЛИЗКО К ГОРИЗОНТУ».**
**13.05, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.40** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.10** Х/ф **«ИСПЫТАНИЕ ОГНЕМ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЛОГАН».**
**23.30** Х/ф **«ШПИОНКА».**

### ЧЕТВЕРГ, 9 АПРЕЛЯ

**7.00, 16.05, 19.40, 21.00, 0.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.15** «Мульт-парад».
**7.30, 16.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС. ИГРА ТЕНЕЙ».**
**9.45, 19.45** Т/с **«ТЬМА».**
**10.35** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**11.00** Х/ф **«ЛОГАН».**
**13.15, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.40** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**16.25** Х/ф **«ДОМОВЕНОК».**
**18.10** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ПРИДЕРЖИ ТЬМУ».**
**23.05** Х/ф **«Я ИДУ ИСКАТЬ».**

### ПЯТНИЦА, 10 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.30, 19.45, 21.00, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал.
**7.30, 15.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС».**
**9.45, 19.50** Т/с **«ТЬМА».**
**10.45** Д/ф «КОСМОС. ПОДВИГИ И ЛОЖЬ».
**11.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК. ВДАЛИ ОТ ДОМА».**
**13.10** «Доктор отвечает».
**12.50, 18.10** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.20** Т/с **«СИЛЬНАЯ ЖЕНЩИНА».**
**15.40** «Мульт-парад».
**15.50** Х/ф **«ЛЕКАРСТВО ОТ СМЕРТИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ХАН СОЛО. ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**23.25** Х/ф **«ЗОЛОТОЕ КОЛЬЦО».**

### СУББОТА, 11 АПРЕЛЯ

**7.00, 14.15, 18.15, 21.15, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Гороскоп.
**7.20** Мультфильмы «Красавица и чудовище».
**8.50, 15.55** «Приколы 13-й школы».
**8.55** Х/ф **«ЧИНГАЧГУК БОЛЬШОЙ ЗМЕЙ».**
**10.25** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ГРОЗОВЫЕ ВОРОТА».**
**14.20** Мультфильмы «Покемон».
**16.00** «Законы привлекательности».
**16.40, 19.20** Х/ф **«РОМАН С ПРОШЛЫМ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ВРЕМЯ ПЕРВЫХ».**
**23.30** Х/ф **«ГРАНЬ БУДУЩЕГО».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 АПРЕЛЯ

**7.00, 13.20, 17.10, 19.00, 21.05, 0.00** «Погода» + «Эрана».
**7.15** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.35, 17.05** «Приколы 13-й школы».
**8.30** Х/ф **«ПЕС БАРБОС И НЕОБЫЧНЫЙ КРОСС».**
**9.00** «Готовь как шеф».
**10.30** «Законы привлекательности».
**11.25** Х/ф **«ГЛАВНЫЙ КОНСТРУКТОР».**
**13.25** Х/ф **«САЛЮТ 7».**
**15.30** «Смотрим всей семьей». «Звездный десант».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ПЕРВЫЙ ШАГ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ ОГНЯ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 АПРЕЛЯ

**6.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**10.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**12.10** Рядом со звездой.
**13.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**14.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**15.30** Новости БЖД.
**15.45** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.30** Майстэрства і фантазія. Традыцыі і майстар-класы да свята Вялікадня.
**20.20** Х/ф **«ГАМБИТ».**

### ВТОРНИК, 7 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мнения и факты: 75 лет Победы.
**8.30, 19.30** Мая Радзіма.
**8.50** История в письмах.
**9.10** Х/ф **«МАМЫ».**
**12.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**14.00** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**15.50** Х/ф **«ИМЯ».**
**17.15** Мнения и факты.
**18.50** Афиша.
**20.20** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ ТАЙНЫХ АГЕНТОВ».**
**22.30** Мажорный лад.

### СРЕДА, 8 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00** Мая Радзіма.
**7.15** Гость в студии.
**8.00** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**10.30** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**13.00** Рядом со звездами.
**15.40** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Майстэрства і фантазія. Традыцыі і майстар-класы да свята Вялікадня.
**20.20** На вячоркі да Фядоркі.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 9 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 18.00** Будьте здоровы.
**8.30** Майстэрства і фантазія.
**10.50** Х/ф **«ЁЛКИ. ПОСЛЕДНИЕ».**
**12.10** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**14.10** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**16.00** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**18.50** Афиша.
**19.30** История в письмах.
**20.20** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ».**
**22.30** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 10 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00** Мнения и факты.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.00** Майстэрства і фантазія. Традыцыі і майстар-класы да свята Вялікадня.
**8.30, 17.25** История в письмах.
**9.00** Протокол.
**12.00** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**13.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК».**
**15.35** Х/ф **«БАБЛО».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Свет души: христианская вера. Иерей А. Попов.
**20.30** На вячоркі да Фядоркі.
**21.00** Гость в студии.
**22.30** Мажорный лад.

### СУББОТА, 11 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.30** Свет души.
**8.40** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**10.40** Х/ф **«ГИМБИТ».**
**12.10** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА».**
**14.20** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**15.50, 21.10** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.00** Свет души.
**21.30** История в письмах.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 АПРЕЛЯ

**6.30** Х/ф **«ВОЛКИ И ОВЦЫ БЕ-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**8.20** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ».**
**10.20** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО».**
**12.10** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ ТАЙНЫХ АГЕНТОВ».**
**14.50** Х/ф **«ГАМБИТ».**
**16.50** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА».**
**18.20** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**20.20** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**

## Беларусь 1

**6.00** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на Светлое Христово Воскресение.

**6.10** Слово Митрополита Павла на праздник Входа Господня в Иерусалим.

**6.20** Х/ф **«ЛИДИЯ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ТРИ В ОДНОМ 4».**

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Х/ф **«МНЕ С ВАМИ ПО ПУТИ».**

**19.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«СОРОК РОЗОВЫХ КУСТОВ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.30** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.20, 19.35** Телебарометр.

**9.25** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**10.15** «Шерлоки». Детективное шоу.

**11.05** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.05** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**12.55** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ПЕСНЯ».**

**14.40** «Орел и Решка. Перезагрузка «. Трэвел-шоу.

**15.35** «Ужин не нужен».

**16.20** «Папа попал». Реалити-шоу.

**18.00** Х/ф **«ОТЕЛЬ ДЛЯ СОБАК».**

**20.10** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ТЕЛЕВЕДУЩИЙ: И СНОВА ЗДРАВСТВУЙТЕ».**

**23.05** «Супержена». Реалити-шоу.

**23.55** «Третий лишний». Реалити-шоу (СТ).

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.

**8.10, 14.30, 20.15** Навіны культуры.

**8.30, 20.35** «Гэты дзень».

**8.35** «Старыя-разбойнікі». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Карп у вяршках.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Дрэвы на асфальце». Мастацкі фільм (СТ).

**13.10** «Нашы песні». Канцэрт.

**14.50** «Я крочу па Маскве». Мастацкі фільм.

**16.05** «Архітэктура Беларусі».

**16.20** Трансляцыя Велікоднага Паслання і Благаславення «Граду і Свету» з Ватыкана з удзелам Папы Рымскага Францыска.

**17.00** Франсіс Пуленк. Кантата «Stabat Mater». Выконвае Сімфанічны аркестр і хор Белтэлерадыёкампаніі.

**17.30** «Апошні дзень». Аляксей Пятрэнка.

**18.10** «Развітанне». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Чыстае неба». Мастацкі фільм.

**22.50** «І класіка, і джаз». Дзяніс Мацуеў.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Т/с **«АНГЕЛ-ХРАНИТЕЛЬ».**

**11.40** «Видели видео?».

**13.50** ОНТ представляет: «Малая Родина высоких орбит».

**14.50** «Три аккорда». Большой праздничный концерт.

**16.20** «Три аккорда». Большой праздничный концерт(16+). Продолжение.

**17.05** Премьера. Большой новый концерт Максима Галкина.

**18.25** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.05** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.25** Х/ф **«ГАГАРИН. ПЕРВЫЙ В КОСМОСЕ».**

**0.25** «Что? Где? Когда?» Весенняя серия игр.

## СТВ

**6.35, 1.25** «Живая тема».

**8.15** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 20.35** Документальный спецпроект.

**11.55, 13.40, 16.40** Т/с **«ЧУДОТВОРЕЦ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.45, 7.35** Мультфильмы.

**7.05** «Играй, дутар».

**7.40** «Культ/Туризм».

**8.15** «Еще дешевле».

**8.45** Программа». Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ЧАСТИЦА ВСЕЛЕННОЙ».**

**16.00** Погода в Мире.

**18.30, 0.00** Итоговая программа «ВМЕСТЕ».

**19.50, 1.00** Т/с **«КРАСНАЯ КОРОЛЕВА».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Истории ремонта».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «Наш космос».

**9.15** «Наши. Олег Новицкий».

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.45** «Дачный ответ».

**12.45** «НашПотребНадзор».

**13.45** Истории спасения.

**14.15** Т/с **«НАРУЖНОЕ НАБЛЮДЕНИЕ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.35** Ты не поверишь!

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.05** Х/ф **«ОРУЖИЕ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С РИСКОМ ДЛЯ ЖИЗНИ».**

**10.20** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**11.15** Х/ф **«ТЫ ЗАПЛАТИШЬ ЗА ВСЕ».**

**14.45** ПРЕМЬЕРА. Шоу Елены Степаненко.

**15.55** Х/ф **«НЕВЕЗУЧАЯ».**

**17.50, 21.45** Х/ф **«БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.20** После нашей эры. **8.20** Что скрывает ложь. **9.55** Три метра над уровнем неба. **12.10** Три метра над уровнем неба: Я тебя хочу. **14.25** Параллельные миры. **16.20** Чужой билет. **20.10** Васаби. **21.55** Любовь и другие лекарства. **0.00** Большая игра. **2.30** Соммерсби. **4.20** Питер Пэн.

### TV1000 ACTION

**7.10** Астрал: Глава 2. **9.20** Сокровище Амазонки. **11.05** Копы в глубоком запасе. **13.00** Из Парижа с любовью. **14.35** Дэнни Цепной пёс. **19.05** Падение Олимпа. **21.10** Падение Лондона. **22.50** Экспат. **0.40** Химера. **3.00** Скайлайн 2. **5.10** Район №9.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Гости. **8.45** Тени забытых предков. **10.40** Тёмный мир. **12.30** Тёмный мир: Равновесие. **14.15** Лови момент. **15.35** Свадьба по обмену. **17.15** Жених. **19.00** Время Первых. **21.30, 5.50** Шпион. **23.30** Статус: свободен. **1.15** Всё и сразу. **2.55** Парень с нашего кладбища. **4.20** Танки.

### ТВ3

**6.00, 8.45, 9.30** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **9.00** «Новый день». **10.15, 11.15, 12.15** Т/с **«ХОРОШИЙ ДОКТОР». 13.15** Х/ф **«БОЙСЯ СВОИХ ЖЕЛАНИЙ». 15.00** Х/ф **«ПОЛТЕРГЕЙСТ». 17.00** Х/ф **«МАМА». 19.00** Х/ф **«ШКАТУЛКА ПРОКЛЯТИЯ». 21.00** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА: ВОЗМЕЗДИЕ». 23.00** «Последний герой. Зрители против звёзд». **0.15** Х/ф **«ПРОЧЬ». 2.15** Х/ф **«ПАЛАТА». 3.30, 4.15, 5.00, 5.30** Т/с **«ПЯТАЯ СТРАЖА. СХВАТКА».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ПРОСТИТЬ НЕЛЬЗЯ РАССТАТЬСЯ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«НЕ ВМЕСТЕ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«Я ТЕБЯ НИКОМУ НЕ ОТДАМ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.30** Х/ф **«ДИКИЕ ИСТОРИИ». 3.55** Х/ф **«ЗАЩИТНЕГ». 5.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК». 7.40** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЗАКОН». 9.35** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА». 11.40** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 13.30** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 15.25** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ». 17.15** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ». 19.30** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ». 21.20** Х/ф **«ОВЕЧКА ДОЛЛИ БЫЛА ЗЛАЯ И РАНО УМЕРЛА». 23.40** Х/ф **«ГАМБИТ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00** «Балабол 2». **1.05, 2.00, 2.55, 4.00, 4.45, 5.30, 6.20, 7.15, 8.10, 9.05** «Принцип Хабарова». **10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.05, 18.05, 19.05** «Консультант». **20.00, 20.55, 21.50, 22.45** «Легенды о Круге». **23.40** «Маммон».

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35, 22.55** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05, 10.25, 11.55, 12.35, 14.10, 15.10, 17.30, 19.30, 20.55, 22.50, 23.50** Погодка. **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 2.35** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.40** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.15** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **15.15** Фэнтези «БОГИ ЕГИПТА». **17.35** Приключения «СМУРФИКИ 2». **19.35, 1.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Х/ф **«ПОСЛЕ НАШЕЙ ЭРЫ». 23.55** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЕЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Слуцк – Витебск. **9.00** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Торпедо-БелАЗ – РЦОР-БГУ. **10.50** Большой спорт. **11.35** Спортивная гимнастика. Кубок мира. Мельбурн. **13.50** Футбол. Лига чемпионов. **14.20** Тренировочный день. **14.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Минск – БАТЭ. **16.50** Спорт-центр. **18.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Динамо-Брест – Ислочь. В перерыве Спорт-центр. **20.50** Итоги недели. **21.35** Пит-стоп. **22.05** Бокс. Всемирная суперсерия.

### EUROSPORT

**1.00** Теннис. Australian Open-2019. Мужчины. Финал. Джокович – Надаль. **2.30** Теннис. «Ролан Гаррос»-2019. Мужчины. 1/2 финала. Надаль – Федерер. **4.00** Теннис. «Ролан Гаррос»-2019. Мужчины. 1/2 финала. Тим – Джокович. **5.30** Теннис. «Ролан Гаррос»-2019. Мужчины. Финал. Надаль – Тим. **7.00** Теннис. US Open-2019. Мужчины. 1/4 финала. Медведев – Вавринка. **8.00** Теннис. US Open-2019. Мужчины. Финал. Медведев – Надаль. **9.30** Мотогонки. «24 часа Ле-Мана»-2019. **10.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2018. Обзор. **11.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2019. Обзор. **12.30** Снукер. Чемпионат мира-2019. Шеффилд. Финал. **15.00** Велоспорт. Париж – Рубе-2018. **18.00** Велоспорт. Париж – Рубе-2019. **21.00** Олимпийские игры. «Вопреки всему». **21.30, 22.30** Олимпийские игры. «Зал славы». Пхёнчхан-2018. **23.30** Теннис. Australian Open. Мужчины. 1/4 финала. Надаль – Тим.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.15, 11.55, 12.25, 16.40, 17.10** Автодело. **6.30, 8.10, 13.40, 18.10** Стальные парни. **7.45, 10.05, 13.25, 16.20, 19.00, 23.20, 1.35, 3.55** Итоговые новости. **8.00, 10.20** Наезд! **9.00** Мото. Вторые руки. **9.35, 17.40** Квадроциклы. **10.35, 20.15, 22.45** От Кавказа до Аравии. **11.05, 20.50** Школа внедорожного вождения. **11.25** Возвращение легенды. **12.55, 1.10, 1.50** Гаражная команда. **14.30** Мото-тест. **14.50, 21.10, 23.40, 2.40, 5.30** 9 злобных водителей. **15.20, 3.10** Байки про байки. **16.00, 22.25** Легенды автопрома. **19.15, 4.25** Вторичка. **19.30, 19.55** Поехали. **21.45** Вечер с Пикуленко. **0.15, 0.45** Сделаем как надо. **2.10** Сити-тестер. Эксклюзив. **3.45** Автолайф. **4.10** Самообслуживание. **4.40** Приключения 4х4 в Иране. **5.20** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.35, 8.25, 9.15** Чудовищный карп. **10.00** Речные чудовища. **10.55** Масштабные инженерные ошибки. **11.40** Лондонский супертуннель. **12.45, 13.30** Адские грузовики. **14.20** Выживание в лесу. **15.10** Дикая Монтана. **16.00** Австралийские охотники на лобстеров. **16.45, 17.35, 18.20, 19.10, 19.55, 20.45, 21.30, 22.20, 23.05, 23.55, 2.20, 3.05** Австралийские золотоискатели. **0.40, 1.30** Строительство гигантов. **3.50, 4.45** Короли разрушения. **5.35** Полигон.

### HISTORY

**6.10, 6.55, 7.40, 10.15, 11.05, 11.55, 12.40, 13.30, 14.15, 15.05, 15.55, 16.40, 17.30, 4.15, 5.00** Музейные тайны. **8.30, 8.55, 9.25** Вулканическая одиссея. **18.20, 19.10** Мифические существа. **20.05** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **21.00** Первые люди. **22.00, 22.55** Частная жизнь. **23.45, 0.35** Загадочные убийства: царственные особы. **1.25, 2.20** Первые цивилизации. **3.20, 3.50** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.15, 0.35, 1.00** Природа в кадре. **6.40, 7.40** Дикая Канада. **8.35, 9.35** Эпический Йеллоустоун. **10.30, 11.25, 12.20** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **13.15** Мир природы: леопарды – неестественная история. **14.10** В поисках русского тигра. **15.15** Возвращение в Чернобыль. **16.20, 17.15, 18.10** Удивительное семейство псовых. **19.05** Выживание в дикой природе. **20.00** Мир природы – ирбисы. **20.55, 21.50** Земля больших кошек. **22.45** Львиная страна: ночь и день. **23.40** Суровая Австралия. **1.25** Жуткие, настоящие и странные. **2.15** Анатомия крупнейших животных. **3.00** Ветеринар из Йоркшира. **3.45** Новорожденные в зоопарке. **4.15, 4.40, 5.05, 5.30** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 9.15** Инстинкт выживания. **6.25, 6.50** Панорама 360 градусов: Разрушение объектов всемирного наследия. **7.15, 7.40, 8.05, 8.30, 8.50** Научные глупостилучшее за 2018 г. **9.40, 10.25** Авто-SOS 7. **11.10, 11.55** Расследования авиакатастроф. **12.40, 13.30, 14.20, 15.10** Известная Вселенная. **15.55** Миссия полета к Солнцу. **16.40** Путешественник: Полет к Европе. **17.30, 18.15** Тайны космоса. **19.00, 22.45, 1.00, 4.50** Космос: возможные миры. **19.45** Марс: Один день на красной планете. **21.15** Год в открытом космосе. **22.00** Армстронг. **23.30, 0.15** Космос: Пространство и время. **1.45, 2.35** Осушить океан. **3.20** Поймать контрабандиста. **4.05** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **5.40** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.00, 18.00, 22.05, 2.10** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.35, 14.30, 18.30, 2.40** Донка против фидера. **7.00, 23.05, 3.05** Россия заповедная. **7.30, 15.30, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **8.00, 12.10, 16.00, 20.00, 0.05, 4.05** Ледовые тропы рыбалки. **8.30, 12.40, 0.40, 4.35** Профессиональная рыболовная лига 2019. **8.45, 0.55, 4.50** Нож-помощник. **9.00** Рыболовная Россия. **9.35, 13.25, 17.30, 21.35, 1.40, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **11.05** Охота по-фински. **11.40, 19.30, 3.35** Вкусные рецепты рыболова. **12.55** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым. **15.00** Горная охота на средне-кавказского и кубанского тура. **16.30, 20.30** Мир рыболова. **17.00** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **19.00** Горная охота в Таджикистане. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.35** Экстремальный фидер. **1.10** На охотничьей тропе. **5.05** Охота с луком.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.10, 18.05, 22.15, 2.25** Большие идеи для маленького сада. **7.05, 10.55, 15.10, 3.25** Ботаника с Павлом Стерховым. **7.30, 11.45, 16.00, 19.35, 23.50, 3.50** Безопасность. **8.00** Не просто суп! **8.20, 12.35, 16.30, 20.20, 0.40, 4.30** Доктор смузи. **8.35, 16.45, 20.40, 0.55, 4.45** Ваш агроном. **8.50** Фитоаптека. **9.20, 13.35, 21.25, 1.35, 5.30** История одной культуры. **11.30, 15.40, 22.00** Куличи. **12.15, 20.05, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **12.50** Флористика. **13.05, 17.00, 20.55, 1.10, 5.00** Декоративный огород. **17.30** Дачные радости. **19.05** Как поживаете? **23.20** Тихая моя родина. **2.10** Наш румяный каравай.

# У Маладзечне настаўнічаў, у Вілейцы сядзеў у турме

## Як навуковец і грамадскі дзеяч Барыс Кіт быў звязаны з рэгіёнам

**6 красавіка – спаўняецца 110 год Барысу Кіту, беларускаму грамадскаму дзеячу, фізіку, матэматыку, педагогу, канструктару амерыканскай ракетнай тэхнікі. Прапануем прыгадаць, як Барыс Кіт быў звязаны з нашым рэгіёнам.**


Фота budzma.by

Барыс Кіт.

### У Лебедзеве нарадзіўся старэйшы сын

Як паведамляюць на сайце Лебедзеўскай школы, на працягу чатырох гадоў Барыс Кіт жыў і працаваў у вёсцы Лебедзева на Маладзечаншчыне. Калі пачалася Другая сусветная, ён прыйшоў пешшу ў Лебедзева з Баранавічаў. Да вайны працаваў у Баранавічах выкладчыкам і інспектарам аддзела народнай адукацыі Баранавіцкай акругі. Тут у гэты час вучылася ў настаўніцкім інстытуце ўраджэнка вёскі Лебедзева **Ніна Іванаўна Корсак**, дачка царкоўнага рэгента. Яна выйшла замуж за Барыса Кіта.

У Лебедзеве ў пары нарадзіўся старэйшы сын **Уладзімір**.

**У час вайны Барыс Кіт выкладаў у Лебедзеўскай пачатковай школе матэматыку і нямецкую мову. Хацеў тут на базе школы адкрыць гімназію.**

У Лебедзеве Барыс Кіт знаходзіўся да лета 1944 года.

### У Маладзечне хацеў адкрыць настаўніцкую семінарыю

Вось як сам Барыс Кіт прыгадваў сваю дзейнасць у Маладзечне падчас гутаркі з Васілём Быкавым у Франкфурце-на-Майне ў 2001 годзе:

«Беларускі актыў стаў наракаць, што я сяджу, нічога не раблю. Ксёндз **Гадлеўскі**, які тады быў галоўным школьным інспектарам усяе Беларусі (пазней яго расстралялі немцы), паводле чутак, казаў: што гэты Кіт сядзіць там на печы, пара ўжо яму вылазіць адтуль.

Тады я паехаў з Лебедзева ў Маладзечна, дамовіўся са школьным інспектарам. Тады і вырашыў заснаваць у Маладзечне беларускую настаўніцкую семінарыю. Дарэчы сказаць, што ўсе школы, дзе я калісь працаваў ці арганізоўваў іх, былі чыста беларускія. Мяне зацікавіла маладзечанская традыцыя, бо там яшчэ за царскім часам існавала настаўніцкая семінарыя, што было важна. Беларусы таму спрыялі, асабліва школьны інспектар Маладзечанскага раёна спадар **Яворскі**. Ён быў надзвычай цудоўны беларускі патрыёт і пачаў са мною беларускае школьніцтва на Маладзечне.

Каб атрымаць дазвол, нам даводзілася ездзіць у Мінск, у школьны аддзел генеральнага камісарыяту. Там быў нямецкі начальнік Сівіца, а ягоны заступнік – беларускі доктар **Яхім Скурат**. Скурат быў мой калега па Віленскім універсітэце. Мы ўгаварылі немца Сівіцу даць нам дазвол адчыніць беларускую настаўніцкую семінарыю. З гэтым дазволам мы ўсцешаныя прыехалі ў Маладзечна, і я разгарнуў усю справу. Атрымалі асобны дом, надрукавалі афішы. На працягу некалькіх дзён запісалася трыста чалавек моладзі.

Але хутка ўсё знікла. Мы не ведалі, што трэба яшчэ атрымаць дазвол ад нямецкага гебітскамісара **Шмідта** ў Вілейцы. Як ён даведаўся, што я без ягонага дазволу адчыніў семінарыю, дык так заззлаваў і на сваёй машыне прыехаў у Маладзечна. Найперш зачыніў друкарню, дзе друкаваліся афішкі, і шукаў мяне, каб арыштаваць. Тады я паехаў у Мінск да спадара Скурата і таго ж **Сівіцы**, а яны: «Ну што ж, мы цябе пашлём у другое месца». І паслалі мяне ў Паставы таксама дырэктарам беларускай настаўніцкай семінарыі».

### Цягніком павезлі, закутага, у Вілейку

«Аднойчы, як я ехаў да свае хаты ў Лебедзеве, мяне арыштавалі і пасадзілі ў турму. 30 дзён я сядзеў у Глыбокім. Мяне абвінавачвалі, што я нібыта маю сувязь з партызанамі, што я англа-амерыканскі шпіён. На той час ужо працавала Беларуская цэнтральная рада ў Мінску, і там даведаліся, што я сяджу ў Глыбокім. Яны баранілі сваіх людзей. А ў Глыбокім быў прадстаўнік Рады **Нікандра Мядзейка**. Ён дамогся, каб мяне пераявілі ў галоўную турму СД у Вілейцы.

Цягніком мяне, закутага, прывезлі ў Вілейку. Пачалося новае зняволенне. Кінулі мяне ў камеру. Бачу: уся падлога занятая людскімі целамі, няма куды ступіць. Нехта падняўся, пытаецца: «А ты вошы нам прывёз ці не?» Такое было вітанне. Пачалося турэмнае жыццё. Кожнага дня выпускалі нас пагуляць на двор. У дзвярах стаяў вартавы, але не немец, а паляк, паскудны такі чалавек. Па прозвішчы **Генрых Сянкевіч**. У мяне вырасла чорная барада. Дык гэты Сянкевіч падумаў, што я жыд. Ён адмыслова з мяне здзекаваўся. Як я праходзіў праз дзверы, дык ён мяне біў гумовай палкай па галаве. Я ледзьве не падаў. Неяк раз нас павялі ў лазню, і ён пабег за мной паглядзець, ці я жыд? Упэўніўся – не.

Так здарылася, што ў немца Шмідта, гебітскамісара Вілейкі, які забараніў мне семінарыю, быў беларускі даверваны пры Віленскім гебітскамісарыяце **Кастусь Касяк**, мой былы вучань з Віленскай беларускай гімназіі. Ён мяне і ўратаваў. Заступіўся за мяне перад Шмідтам. Гэта быў дужа таленавіты вучань. Калі я ў Вільні аднойчы захварэў і лёг ва ўніверсітэцкі шпіталь, дык Касяк кіраваў заняткамі па матэматыцы. Пражыў ён усяго каля 30 гадоў. Пра ягоную смерць ёсць дзве версіі. Адна – што яго павесілі ў Вілейцы пасля прыходу Чырвонай Арміі. А другая, што загінуў у Валожыне, куды перад канцом быў пераведзены начальнікам раёна, а там на яго данесла немцам Армія Краёва, і ён быў расстраляны».

Барыс Кіт нарадзіўся ў 1910 годзе ў Санкт-Пецярбургу. У 1918 вярнуўся з бацькамі на Наваградчыну, адкуль паходзіць сям'я. Скончыў школу, гімназію, фізмат Віленскага ўніверсітэта (1933). Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1930-я быў выкладчыкам і дырэктарам беларускіх гімназій. У 1943-м настаўнічаў у Маладзечне і Паставах. Заснаваў адміністрацыйна-гандлёвы інстытут у Маладзечне. У 1944 арыштаваны гестапа. У канцы вайны эміграваў у Германію. Вывучаў медыцыну ў Мюнхенскім універсітэце і адначасова выкладаў матэматыку ў мясцовых гімназіях. Жыў у Германіі і ЗША. Працаваў у Вашынгтоне, у Міністэрстве паветраных сіл ЗША ў аддзеле касманаўтыкі. Выконваў абавязкі эксперта ў развіцці міжнароднай касманаўтыкі. Памёр 1 лютага 2018 года ў Франкфурце-на-Майне.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**3 КРАСАВІКА**

**1940.** Пачаліся масавыя знішчэнні ваенных вязняў, грамадзян Польшчы, з савецкіх канцлагераў у Казельску, Асташкаве і Старабельску. Сярод забітых былі і ўраджэнцы сённяшняй Беларусі.

**4 КРАСАВІКА**

**1891.** Нарадзіўся **Язэп Варонка**, беларускі палітычны дзеяч.



**1949.** Стварэнне НАТА. У гэты дзень краіны-заснавальніцы падпісалі ў Вашынгтоне т. зв. Паўночнаатлантычны дагавор. Сярод падпісантаў: Бельгія, Вялікабрытанія, Нідэрланды, Данія, ЗША, Ісландыя, Італія, Канада, Люксембург, Нарвегія, Партугалія і Францыя.

**5 КРАСАВІКА**

**1972.** Заснаванне ў Вязынцы Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка.

**1989.** Урад Польшчы дазволіў дзейнасць прафсаюза «Салідарнасць».

**1990.** Парламент Беларусі абвясціў 26 красавіка днём Чарнобыльскай трагедыі.

**6 КРАСАВІКА**

**1893.** У в. Калодчына на Вілейшчыне нарадзіўся **Язэп Гаўрылік**, беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Выпускнік Барунскай настаўніцкай семінарыі. У 1922 годзе – адзін з заснавальнікаў Радашкавіцкай беларускай гімназіі, актыўны дзеяч Таварыства беларускай школы. Пасол польскага сойму ў 1928-1930 гадах. Асуджаны. У 1932 годзе абменены на савецкіх вязняў. Выехаў у СССР. Рэпрэсіраваны. Расстраляны ў 1937. Рэабілітаваны.

**1910.** Нарадзіўся **Барыс Кіт**, навуковец, актыўны дзеяч беларускай эміграцыі.

**7 КРАСАВІКА**

**1795.** Увядзенне ў Францыі метрычнай сістэмы.

**8 КРАСАВІКА**

**1986.** Кіраўнік СССР **Міхаіл Гарбачоў** у часе свайго візіту ў Тальяцці ўпершыню ўжыў слова «перабудова».

**2010.** Звяржэнне прэзідэнта Кіргізіі **Курманбека Бакіева**. Больш за 70 ахвяр.

**9 КРАСАВІКА**

**1835.** Нарадзіўся **Ялегі Пранціш Вуль**, беларускі паэт. Памёр у 1880-я.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**

# Я стаў лётчыкам у медыцыне

**Аляксей Бурэц – доктар у трэцім пакаленні. Ён адвучыўся і працаваў у Беларусі анестэзіёлагам-рэаніматолагам, але апошнія гады працуе ў Германіі. Аляксей распавёў, як паступіць на бясплатнае ў медыцынскі ўніверсітэт, пра максімум адпрацаваных гадзін за месяц, чаму пераехаў у іншую краіну і што раіць з нагоды каранавіруса.**

### Бацькі былі супраць, каб стаў доктарам

Я нарадзіўся і вырас у маладзечанскай сям'і дактароў. Мама, Алена Леанідаўна, працавала тэрапеўтам у паліклініцы №2 і галоўным пазаштатным прафпатолагам Маладзечанскага раёна. Цяпер працуе тэрапеўтам у санаторыі. Тата, Рыгор Канстанцінавіч, працуе анестэзіёлагам-рэаніматолагам у маладзечанскай радзільні. Сястра Дар'я таксама стала медыкам, працуе сямейным доктарам у італьянскім Турыне.

Дактарамі працавалі ўсе сваякі па мамінай лініі: мой дзядуля, дзядзькі, цёткі і іх дзеці. Тата першапраходзец у медыцыне ў сваім родавым дрэве. Але менавіта ён паўплываў на мяне як на сына ў выбары прафесіі. Маё першае знаёмства з працай анестэзіёлага-рэаніматолага адбылося ў дзяцінстве. Мы з мамай часта заходзілі да таты на працу. І аднойчы ён завёў мяне ў аперацыйную. Мне тады было гадоў шэсць. Вы, напэўна, скажаце – перабор, ранавата. Але менавіта гэты момант, мяркую, і нарадзіў тую іскрынку, якая пасля распаліла тот неймаверны агонь жадання стаць доктарам.

Як ні дзіўна, бацькі былі супраць, каб я стаў доктарам. Магчыма, на гэта паўплывала не лепшае фінансавае становішча ў сям'і, складаныя рабочыя будні і вялікая адказнасць. Як і ўсе хлопчыкі, я марыў стаць касманаўтам, лётчыкам. Так і атрымалася – я стаў лётчыкам. Анестэзіёлага-рэаніматолага ў медыцыне заўсёды параўноўваюць з пілотам. У мяне свой самалёт, пасажырам якога з'яўляецца мой пацыент, чыё жыццё падчас аперацыі ў маіх руках, і за яго жыццё я нясу поўную адказнасць.

### Чаму перайшоў у гімназію №7

Для паступлення трэба здаваць тэсты па трох прадметах – мове, хіміі і біялогіі. Гэта і вызначыла мой пераход пасля дзявятага класа з шостай гімназіі ў Маладзечанскі дзяржаўны ліцэй №7, цяпер гэта гімназія №7. Тут настаўнікі па хіміі і біялогіі былі наймайцнейшыя ў горадзе.

Мой класны кіраўнік **Наталля Данілаўна Пашчук** – бясспрэчны лідар сярод педагогаў па хіміі. Яна змагла зрабіць так, каб мы палюбілі прадмет. Настаўнік біялогіі **Вольга Генрыхаўна** таксама не давала расслабляцца на ўроках.

### Ці рэальна паступіць на бюджэт у медыцынскі

Паступіць у БДМУ нерэальна? Ну я ж паступіў! І мая сястра паступіла, і амаль усе аднакласнікі апынуліся там. Так, гэта складана, але дасягальна.

Калі ў дзясятым класе ты яшчэ раскалыхваешся, маеш дастаткова часу, каб бавіць яго з сябрамі, то адзінаццаты – год бясконцай вучобы без перапынку. Пастаянна вучыш літаратуру, ездзіш на выхадных да рэпетытара. Так, гэты год быў самы складаны, але па-іншаму ніяк.

Я не мог сабе дазволіць не паступіць ва ўніверсітэт па некалькіх прычынах. Не мог не апраўдаць чаканні бацькоў, я проста не змог бы ім глядзець у вочы, калі б праваліў тэсты. Да таго ж мы не маглі сабе дазволіць плаціць вялізныя грошы за навучанне, калі б прайшоў на платнае. І ўвогуле, імкненне добра вучыцца пераняў у таты і мамы, таму было не прывыкаць. Бачыце, як шмат для мяне значаць бацькі. Зрабіўшы яшчэ больш упор на вучобу ў 11 класе, паступіў на бясплатную форму навучання. Перабраў амаль 50 балаў вышэй за прахадны.

### Як вучыўся ў медыцынскім

Вучоба ў медыцынскім універсітэце складаная, гэта праўда. Але не трэба перабольшваць. Напэўна, ва ўсіх універсітэтах вучыцца складана, магчыма, не настолькі, як у БДМУ. Самае складанае – першыя тры курсы, калі вывучаюць не клінічную медыцыну, а прадметы, зусім не звязаныя з медыцынай або звязаныя ўскосна. Паліталогія, філасофія і іншыя. На жаль, белару-

ская адукацыя як дзіця савецкай сістэмы так і пакінула ўсе гэтыя перажыткі. На прадметы, якія для спецыяліста не адыгрываюць істотнай ролі або можна вывучаць як факультатыўныя, адводзяць зашмат часу і ўвагі. Гэта ідзе на шкоду прадметам, якія сапраўды спатрэбяцца доктару.

Менавіта таму нашы дактары выходзяць з універсітэта істотна слабейшымі за калег, што скончылі еўрапейскія або амерыканскія ўніверсітэты. Там стаўку робяць на прадметы, што непасрэдна звязаныя з медыцынай і нашмат больш часу надаюць практычнай падрыхтоўцы спецыяліста.

Ці праўда, што студэнты-медыкі тыднямі не спяць? Вучыцца да глыбокай ночы – нармальная з'ява ў медыцынскім універсітэце. Але так, каб зусім не спаць, – не, гэта ўжо толькі перад калёквіумамі і ў час сесій. Жыццё студэнта-медыка зусім не сумнае! Яны ж такія самыя студэнты, як і іншыя. Таму час на студэнцкія забавы заўсёды знаходзілі.

### Як стаў анестэзіёлагам-рэаніматолагам

Я пайшоў па слядах таты. Менавіта ён для мяне быў і застаецца вечным прыкладам для пераймання!

Таму ад самага пачатку ведаў, якую спецыяльнасць абяру. Ад чацвертага курса пачаў наведваць гурток па анестэзіялогіі і інтэнсіўнай тэрапіі. Першыя кнігі, якія падарылі бацькі падчас вучобы ва ўніверсітэце, былі менавіта па гэтай спецыяльнасці.

### Як працаваў на «хуткай дапамозе»

На «хуткую дапамогу» ўладкаваўся ў 2010 годзе, калі яшчэ быў студэнтам пятага курса. Спачатку як санітар выязной брыгады. Для мяне было мэтай стаць доктарам кардыёрэанімацыйнай брыгады, эліты «хуткай дапамогі». У мой час такіх брыгад было ўсяго шэсць на амаль двухмільённы Мінск. Прайшоў шлях ад санітара, фельчара, доктара лінейнай брыгады, а ў 2012 годзе нарэшце кардыёрэанімацыйнай брыгады.

Паверце, вельмі шмат выпадкаў, калі пацыенты раздражняюць паводзінамі. Больш за ўсё здзіўляе эгаізм, менавіта так магу ахарактарызаваць выклікі брыгады «хуткай дапамогі» на лёгкі парэз пальца, тэмпературу 37,0. Да персаналу «хуткай дапамогі» некаторыя ставяцца, як да абслугі, прычым гэтага не хаваюць і не саромеюцца ў выразах. Некаторыя ставяцца да «хуткай», як да таксі. У той жа час прыходзяць сотні вартых выклікаў, калі стан пацыентаў пагражае жыццю. Але такія людзі часам мусяць чакаць.

Ці адчуваў сябе героем? Я вельмі самакрытычны. Да таго ж, гэта мая праца і доўг. Для мяне многія дактары героі. Але героем не ты сам сябе павінны лічыць, а іншыя, калі такога звання заслугоўваеш.

### У адзін месяц адпрацаваў 344 гадзіны

Мне пашчасціла працаваць у РНПЦ «Трансплантацыі органаў і тканак» на базе дзявятай гарадской клінічнай бальніцы Мінска. Чаму пашчасціла? Аддзел анестэзіялогіі і рэанімацыі цэнтра – лідар у Беларусі. Не крывячы душой, скажу, што бальніца сапраўды можа называцца ўніверсітэцкай клінікай, якія ёсць тут, у Германіі. Нам выпала магчымасць расці і быць на галаву вышэй за калег, але за ўсё даводзілася плаціць.

У большасці дзяжурствы былі цяжкія, ночы бяссонныя. Да нас паступалі самыя цяжкія хворыя з усёй Беларусі. Абсалютна нармальнымі былі 32-гадзінныя рабочыя змены, 16 гадзін адпачынку і зноў на працу. У час, калі я спалучаў бальніцу з «хуткай дапамогай», некалькі разоў выходзіла за месяц больш за 300 рабочых гадзін. Мой рэкорд – 344 рабочыя гадзіны за месяц. Гэта вар'яцтва, падумаеце вы. Так, гэта праўда. Але такая суровая рэальнасць доктара ў Беларусі. І такімі былі амаль усе ў калектыве. Аддавалі ўсяго сябе працы.

Калі была свабодная хвілінка па начах, збіраліся з маладымі калегамі, абмяркоўвалі, спрабавалі тэхналогіі, вучыліся. Такая вось рамантыка. Радаваліся, калі нашымі стараннямі атрымоўвалася ўкараніць нешта новае. Я ганаруся сваімі калегамі з цэнтра. Але, на жаль, амаль усе яны ўжо не ў Беларусі.

### Калі вырашыў пераехаць у Германію

Тое, што, хутчэй за ўсё, з'еду з Беларусі, я ведаў яшчэ ва ўніверсітэце, а, магчыма, і да паступлення. Я не хацеў існаваць ад зарплаты і жыць за ідэю. Магчыма, для старэйшага пакалення гэта прагучыць груба, бо у савецкі час гэта было сэнсам жыцця для многіх.

Я быў не першы і стану не апошнім, хто пераехаў у Германію. Доктару з'ехаць і знайсці працу нескладана, для гэтага не трэба карыстацца адмысловымі праграмамі. Разаслаў рэзюмэ, прайшоў сумоўе ў некалькіх клініках, выбраў тую, што спадабалася найбольш.

Сустрэў 2017 год з бацькамі дома, а 2 студзеня забраў працоўную кніжку і адправіўся ў Германію. Пачаў новае жыццё з Новага года. Праз два з паловай гады памяняў месца працы, перайшоў у адну з самых буйных клінік Паўночнай Германіі. Для дактароў Германіі гэта звычайная з'ява.

Рашыцца на пераезд было зусім нескладана, таму што ідэю выношваў даволі доўга. Першыя тры месяцы былі самыя цяжкія. Іншая мова, іншыя людзі, іншыя погляды і падыходы. А пасля ўсё ўнармавалася. Не магу сказаць, што цалкам адаптаваўся, але адчуваю сябе тут камфортна. Тут ветлівыя і добрыя людзі, паважліва ставяцца да доктара, свабода слова, годны ўзровень жыцця.

### Параўнаем умовы ў Беларусі і Германіі

Доктар у Беларусі выжывае, а ў Германіі жыве. У Беларусі амаль усе працуюць на паўтары-дзве стаўкі. Тут жа гэта проста забаронена! Гэта небяспечна як для пацыента, так і для самога доктара. Верагоднасць доктарскай памылкі пры такой нагрузцы павялічваецца ў разы. Прафесійнае і эмацыйнае выгаранне ў Беларусі прыходзіць нашмат хутчэй.

Якаснае навучанне ва ўніверсітэце і паслядыпломная адукацыя – важныя складнікі перадавой медыцыны. На жаль, у Беларусі няма ні таго, ні іншага. Калі ты сам не будзеш займацца самаадукацыяй у Беларусі – не станеш добрым доктарам. Таму рэформы ў гэтай сферы неабходныя. У Беларусі шмат добрых дактароў, але гэта, хутчэй, заслуга іх саміх, а не сістэмы.

Адэкватны заробак таксама з'яўляецца залогам паспяховай медыцыны. Авіцэна казаў: «Доктар павінен быць апрануты ў багатае адзенне, насіць на руцэ дарагі пярсцёнак, мець лепшага каня, каб думкі пра хлеб штодзённы не адцягвалі ўвагу ад клопатаў пра пацыента».

У Германіі ў мяне з'явілася шмат вольнага часу, які выдаткоўваю не на падпрацоўку, а на самаадукацыю, адпачынак, падарожжы. Колькасць прачытанай літаратуры, наведаных курсаў у разы большая, чым было на радзіме. Тут я магу сябе цалкам прысвяціць служэнню медыцыне. І мне гэта бязмежна падабаецца!

Інтэнсіўнасць працы тут нашмат вышэйшая, чым у Беларусі. Ты адпрацоўваеш кожны цэнт. Але аплата працы адпаведная. Затое нашмат больш свабоднага часу, можаш забяспечыць сабе годнае жыццё.

### Што змянілася з каранавірусам

Каранавірус – злы і небяспечны вораг. Можна казаць, што ў свеце памірае нашмат больш людзей ад туберкулёзу або іншых інфекцый. Але гэты вірус набірае абароты, і смяротнасць у некаторых краінах ужо дасягнула 10%. На шчасце, да майго горада хваля яшчэ толькі падбіраецца, але ўжо прынялі меры, каб мінімізаваць колькасць заражаных. Адміністрацыі масавыя мерапрыемствы, праводзяць скрынінг, рэарганізавалі бальніцы і фонд ложкаў.

Для мяне цалкам незразумела, чаму дагэтуль у Беларусі адмаўляюць факт небяспекі пандэміі. Хаця такія паводзіны нармальныя для гэтай краіны. На жаль, пераxварэюць многія. Якой будзе смяротнасць, прадказаць немагчыма. Але банальныя правілы гігіены, пазбяганне лішняга кантакту, асабліва масава, – сапраўды дзейсныя метады ў барацьбе з каранавірусам.

### Па чым сумуе

Канешне, больш за ўсё не хапае бацькоў. Калі з'язджаў, я ведаў, што так і будзе. Вельмі сумую па тым, што гатуе мая любімая мама! Калі лячу дадому, меню складаюць на ўвесь тыдзень. Без баршчу, дранікаў, катлет і пюрэ не абысціся!

Маладзечна – прыгожы горад, ён назаўсёды застанецца родным. Успамінаў так шмат, іх не пералічыць. І кожны раз, калі вяртаюся дадому, абыходжу горад. Гэта месца, дзе я нарадзіўся, горад, у якім вырас. Гэта маё Маладзечна!

### Як заахвоціць моладзь да медыцыны

Прапаганда дапамогі людзям у Беларусі практычна не развітая. Стаўленне доктар-пацыент, ды і сама медыцына пакідаюць жадаць лепшага.

Зацікавіць можна, калі стварыць добрыя ўмовы для жыцця і працы доктара, а не для выжывання. Вярнуць тое паважлівае стаўленне да доктара, якое мы ў Беларусі даўно страцілі.

### Якой бачыць будучыню

Я знаходжуся ў стадыі станаўлення і кар'ернага росту. Як складзецца ўсё ў далейшым? Хочацца верыць толькі ў лепшае.

Беларусь як месца для жыцця і працы, на жаль, не разглядаю. Спадзяюся, што ўмовы дактароў у краіне зменяцца да лепшага і адток кадраў за мяжу спыніцца. Хаця ў гэтым і сумняваюся.


Фота забяспечана Аляксеем БУРЦОМ.

Аляксей Бурэц з татам Рыгорам Канстанцінавічам.


Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

### З-за пандэміі фэст экскурсаводаў пераносяць на верасень

Як паведамілі нам арганізатары фэсту, з-за неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкі традыцыйнае красавіцкае свята пераносяць на 19-20 верасня.

> – Мы клапоцімся пра ўдзельнікаў і экскурсантаў. Таму ў сувязі з неспрыяльным санітарна-эпідэміялагічным становішчам у Беларусі і свеце вымушаныя перанесці фэст экскурсаводаў-2020, – паведамілі арганізатары.

Нагадаем, што 11 фэст экскурсаводаў меўся адбыцца 25-26 красавіка.

**Аддзел інфармацыі.**

### Пачала працаваць выстава Галіны Левінай

ВІЛЕЙКА

«Горад, напісаны крокамі. Адваротная перспектыва». Пад такой назвай ад 31 сакавіка да 26 красавіка ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча Вілейскага краязнаўчага музея будзе працаваць мастацкая выстава. Наведнікам прадставяць больш за пяць дзясяткаў аўтарскіх работ архітэктара лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі **Галіны Левінай**.

Галіна Левіна – беларускі архітэктар, рэстаўратар, грамадскі дзеяч, прапагандыст яўрэйскай культуры. Яна – дачка знакамітага акадэміка архітэктуры **Леаніда Левіна**, аўтар сцэнаграфічных работ і паэтычных зборнікаў.

Малюнкі, што пакажуць на гэтай выставе, выкананыя Галінай Левінай у розны час і ў розных месцах не толькі Беларусі.

– Сапраўды, яе гарады нібы напісаныя крокамі. Яны літаральна выхаджаныя і ўвабраныя аўтарам. Алоўкі, пастэль, туш, фламастар, блакнот сталі абавязковымі спадарожнікамі яе вандровак і службовых камандзіровак. Асабліва Галіну Левіну вабіць гісторыя і архітэктура малых гарадоў, дзе, як сцвярджае яна, захоўваецца ні з чым не параўнальны дух мястэчка, па-свойму ўнікальны і непаўторны, – распавяла навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава**.

> Сёння малюнкі архітэктара Галіны Левінай паступова становяцца рарытэтам ужо ў сілу сваёй поўнай непатрэбнасці ў сучаснай праектнай працы, бо з яе рэпрэзентацыяй паспяхова спраўляюцца камп'ютарныя графічныя праграмы.

Часы мяняюцца, і цяпер архітэктурны малюнак лічыцца паўнавартасным і самастойным відам мастацтва. Яго пачалі збіраць не толькі знаўцы графікі, але і буйныя музеі. У Беларусі пакуль такія выставы рэдкасць.

**Аддзел інфармацыі.**





Алег Чэчанеў і Кацярына Шчэрбач у вобразах.

# На маладзечанскай сцэне паказалі Вудзі Алена

## У драмтэатры прайшоў перадпрэм'ерны паказ фарса «Фокусы жыцця»

МАЛАДЗЕЧНА

**27 сакавіка на сцэне Мінскага абласнога драмтэатра ў Маладзечне зладзілі перадпрэм'ерны паказ фарса «Фокусы жыцця» па матывах п'есы Вудзі Алена. А прэм'ера адбылася 28 сакавіка.**



Аляксандра Грасевіч.

Хоць сваю п'есу Вудзі Ален і стварыў у пачатку 1980-х, яна вельмі запатрабаваная і цяпер, перакананы кіраўнік тэатра **Юры Крывенькі**. На яго думку, праблемы бацькоў і дзяцей, а таксама сямейных каштоўнасцяў не трацяць актуальнасці.

– На сцэне побач з майстрамі сцэны **Алегам Чэчаневым**, **Ірынай Камышавай**, **Сяргеем Карзеем** іграюць маладыя – **Аляксандра Грасевіч**, **Кацярына Шчэрбач**, **Павел Святоха**. Таму ў спектаклі ёсць пераемнасць пакаленняў. Спадзяёмся, што гэта п'еса зверне ўвагу бацькоў на дзяцей і наадварот, – расказаў **Юры Крывенькі**.

Па яго назіраннях, апошнім часам людзі хочуць ад тэатра нечага забаўляльнага. І ўсё ж тут думаюць, што сур'ёзны твор таксама зацікавіць гледача.

– Патрэбны быў матэрыял, блізкі да сённяшніх рэалій, – падтрымлівае гутарку рэжысёр-пастаноўшчык **Дзяніс Нупрэйчык**. – І п'еса сапраўды сугучная з сённяшнім часам. Шмат у чым твор – аўтабіяграфічны. Вудзі Ален пісаў пра сябе – закамплексаванае дзіця, якое мае сваю мару і разам з тым – праблемы з успрыманнем свету. Ён – увасабленне многіх прадстаўнікоў сённяшняга маладога пакалення, якія, нягледзячы на знешнюю разняволенасць, заклапочаныя пытаннем, як праявіць сябе, як выжыць у гэтым няпростым свеце.

17-гадовы **Пол** (Павел Святоха) захапляецца фокусамі. І замест таго, каб хадзіць у школу, бавіць час у краме для ілюзіяністаў або рэпеціруе чарговы фокус. Разам з тым, хлопец вельмі закамплексаваны – ён заікаецца і баіцца выступаць перад публікай.

І ўсё ж, па словах рэжысёра, галоўным героем з'яўляецца не 17-гадовы Пол, а яго мама **Энід** (Ірына Камышава), на якую ў адзін момант навалілася шмат праблем. Муж (Алег Чэчанеў) не прыносіць грошы і завёў каханку (Кацярына Шчэрбач), сын прагульвае школу, а дачка (Аляксандра Грасевіч) не слухаецца.

Аднак п'еса заканчваецца хэпі-эндам. Бо ніхто і нідзе не зразумее цябе так, як родная сям'я, перакананы рэжысёр.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Як дапамагчы свайму дзіцяці стаць паспяховым у жыцці

СМАРГОНЬ

**Што рабіць бацькам, каб дзіця было паспяховым у жыцці. Існуе шмат поглядаў розных спецыялістаў на гэту тэму, напісана шмат кніг. Але паспяховымі ўсё ж становяцца адзінкі.**

Я працую выхавальнікам у звычайным дзіцячым садку. На маіх вачах растуць маленькія людзі, якія штодзень дэманструюць свае маленькія поспехі мне і сваім бацькам. І робяць дзеці гэта, каб даведацца пра сябе і свае здольнасці, атрымаць падтрымку, любоў ад аўтарытэтных для іх людзей.

«Мамачка, паглядзі, як я зляпіла мядзведзіка з пластыліну!» або «Ці бачыш, як добра атрымалася ў мяне наклеіць самалёцік?», «Уяўляеш сабе, сёння мы малявалі дыванкі! Вось гэты мой!», «Паслухай, як я спяваю песеньку пра маму».



Падчас стварэння чарговых вырабаў на творчых занятках.

## Пахвала дзіцяці – як заробак дарасламу

На жаль, рэакцыя бацькоў не заўсёды такая, якую чакаюць дзеці. У лепшым выпадку, гэта некалькі слоў, што хлопчык ці дзяўчынка – малайцы, прыгожа зрабілі. Але здараецца, бацькі, спяшаючыся, забіраюць сына ці дачку дадому, тлумачачы, што няма часу, яшчэ ёсць шмат спраў. Вочы дзіцяці патухаюць, матывацыя знікае. Так, з дня ў дзень, у дзяцей фарміруюцца свае каштоўнасці, здольнасці, самаацэнка, уменні і навыкі – усё тое, што складае паспяховасць чалавека.

Разумею, што бацькі паступаюць так несвядома: інтэнсіўны рытм сучаснага жыцця не любіць павольных, шматлікія абавязкі на рабоце і дома стамляюць. Ды і не ўсе бацькі валодаюць педагагічнымі методыкамі, каб правільна ацаніць творчую работу дзіцяці.

Але давайце паглядзім на падобную сітуацыю з іншага боку, на прыкладзе працы дарослага чалавека, напрыклад, прадаўца. Прадавец магазіна прымае тавары, раскладае іх, абслугоўвае пакупнікоў, вядзе справаздачу, нясе матэрыяльную адказнасць і многае іншае. За выкананне пералічаных задач ён атрымоўвае заробак, прэмію. Як бы адрэагаваў прадавец, калі б яму не заплацілі? Ці адчуў бы ён каштоўнасць сваёй працы, матывацыю працаваць лепей?

У дзяцей адбываецца тое самае, калі іх праца аказалася дарэмнай і непатрэбнай.

**Яны хоць і маленькія, але добра ўсведамляюць рэчаіснасць і хочуць адчуць сваю каштоўнасць, атрымаць частку бацькоўскай увагі.**

## Хтосьці выкіне ў смеццніцу, хтосьці павесіць на сцяну

У дашкольным узросце дзеці вельмі прывязаныя да сваіх бацькоў. Ім патрэбная пяшчота, любоў. Таму ўсё, што дзеці так старанна робяць: лепяць, малююць, клеяць, будуюць, яны робяць дзеля або для мамы і таты. Пасля хочуць забраць сваю работу дамоў для бацькоў. Далей лёс дзіцячых работ залежыць ад дарослых. Некаторыя нясуць у бліжэйшую сметніцу. Іншыя захоўваюць у спецыяльных папках, альбомах, вешаюць на сцяну, пераўтвараючы яе ў дошку гонару для дзіцяці.

Дзеці такіх бацькоў заўсёды радасна дэманструюць свае поспехі, яны адчуваюць сябе любімымі, паводзяць упэўнена, смела, бо за іх плячыма падтрымка цэлай сям'і. А яшчэ такія дзеці вырастаюць у дарослых, якія з павагай адносяцца да вынікаў працы людзей.

Акрамя таго, захоўванне дзіцячых работ можа стаць цудоўным матывацыйным інструментам для чалавека ў будучым. Памятаю выпадак з адным знаёмым хлопчыкам, у якога не атрымоўвалася вывучыць у школе табліцу множання. Хлопчык ужо быў у роспачы. Але мама дастала альбом з яго рознымі работамі, якія яна збірала з дзіцячага садка, і сказала: «Паглядзі, які ты ў мяне таленавіты! Колькі ўсяго складанага і прыгожага зрабіў. Няўжо мы разам не справімся са звычайнай табліцай множання?» Пасля такой матывацыі табліцу хлопчык паспяхова вывучыў.




Куток у групе, дзе выстаўляюць дзіцячыя работы.

## Навошта дошка гонару ў дзіцячым пакоі

Калі не хапае веры ў свае сілы, рэальнай падтрымкай можа стаць дошка гонару на сцяне ці альбом з лепшымі работамі, створаныя клапатлівымі бацькамі.

Калі быць уважлівымі і цікавіцца жыццём свайго дзіцяці, то поспехі можна адзначаць кожны дзень нават у дашкольным узросце: правільна вымаўлены гук, вывучаныя новыя словы, набытае ўменне зацягваць замок на куртцы, завязваць шапачку, выразна прачытаны верш на памяць, самастойны адыход да сну, сабраныя цацкі. Усё гэта варта бацькоўскай увагі і пахвалы.

А каб захаваць важныя моманты, можна рабіць фотаздымкі або відэа, магчымасці для гэтага цяпер ёсць у кожнага. І дзеці, і дарослыя вельмі любяць рабіць сэлфі. Няхай гэтыя фотаздымкі будуць больш змястоўнымі, пазітыўнымі, няхай матывуюць на новыя здзяйсненні.

Лепш выхоўваць моцных духам дзяцей, чым дапамагаць потым зламаным дарослым. Паспяховасць расце разам з чалавекам. І для бацькоў, якія жадаюць свайму дзіцяці лепшага, сакрэт просты: паспець своечасова заўважыць здольнасці сына ці дачкі, падтрымаць, пахваліць, запаліць агеньчык жадання да дзеяння, любіць і верыць у сваё дзіця.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальнік дашкольнай адукацыі ясляў-сада №8 Смаргоні.**
**Фота аўтара.**

# Дэпутат Душэўскі палаяўся ў каментарах у сацсетцы

## І прызначыў сустрэчу, на якую ніхто не прыйшоў

**У суботу, 28 сакавіка, суполка маладзечанскага футбольнага клуба размясціла інфармацыю пра бюджэт каманды за 2019 год. Дэпутат Маладзечанскага Савета дэпутатаў Андрэй Душэўскі выкарыстаў ненарматыўную лексіку ў адказах на каментары, якія пакідалі карыстальнікі.**

### Што з бюджэтам?

У матэрыяле аб бюджэце размешчаная інфармацыя пра крыніцы прыбытку і выдаткі на фінансаванне футбольнай каманды ў 2019 годзе.

Высветлілася, што летась раённы і абласны бюджэт выдаткаваў на ФК «Маладзечна» 115 тысяч рублёў. Ад рэкламнай дзейнасці камандзе дасталася 51 тысяча рублёў. Спонсары далі дзевяць тысяч рублёў. Ад дзіцячага футбола праз трэніроўкі малодшых спартсменаў – амаль чатыры тысячы рублёў.

**Усяго на каманду было разлічана 179 тысяч рублёў.**

У табліцы выдаткаў 11 пунктаў: харчаванне спартсменаў, транспартныя паслугі, арэнда стадыёна, арэнда брыгады «хуткай дапамогі», заявачны ўнёсак, зарплата, ФСАН (Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва), падаходны падатак, Белдзяржстрах, ПДВ (падатак на дададзеную вартасць) і іншае (форма, інвентар, абслугоўванне камп'ютарных праграм, канцылярыя).

**Самы вялікі з гэтых пунктаў – харчаванне, 62 тысячы рублёў.**

А вось на зарплаты пайшлі толькі 32 тысячы рублёў. Агульныя выдаткі за сезон-2019 – 175 тысяч рублёў.

### З чаго пачаўся канфлікт?

Пасля публікацыі фінансавай справаздачы карыстальнікі сацыяльнай сеткі пачалі пакідаць каментары, на якія і адрэагаваў Душэўскі.

Адны пісалі, што такую фінансавую справаздачу без подпісаў і пячатак можа зрабіць любое дзіця. У матэрыяле суполкі насамрэч не было дакументаў справаздачы з подпісамі і пячаткамі.

Адзін з карыстальнікаў спытаўся: «Вы чым кармілі спартсменаў? І якія праграмы вы абслугоўвалі? Аўтакад ліцэнзійны?».



Усё пачалося з-за запісу ў сацыяльнай сетцы пра фінансавую справаздачу клуба за 2019 год.

У адказ дэпутат Душэўскі пакінуў каментары з выкарыстаннем нецэнзурнай лексікі.

### Чаму Душэўскі так адрэагаваў на каментары

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» 30 сакавіка звязалася з Андрэем Душэўскім, каб разабрацца ў сітуацыі. На пытанне журналіста, чаму ён пакінуў такія каментары, Душэўскі сказаў:

**– Пакуль не гатовы вам нічога адказаць.**

Маладзечанскі дэпутат праз каментары ў суполцы ў суботу запрасіў на сустрэчу ўсіх зацікаўленых, каб патлумачыць сітуацыю. Прызначыў сустрэчу на раніцу панядзелка, 30 сакавіка. Аднак, па словах Душэўскага, да яго ніхто не прыйшоў.

Душэўскі таксама заявіў, што ў суполцы з'явіцца матэрыял з тлумачэннем суботняга інцыдэнту. Дакладную дату не назваў.

***

У 2019 годзе маладзечанскія футбалісты заваявалі права выступіць у першай лізе ўпершыню ад 2005 года. ФК «Маладзечна» планавалі аб'яднаць з «Андэрдогам» і выступіць аб'яднанай камандай у першай лізе.

У сярэдзіне сакавіка стала вядома, што аб'яднання не будзе. «Андэрдог» пратэрмінаваў ліцэнзаванне ў першую лігу і не выступіць там увогуле.

ФК «Маладзечна» цалкам змяніў кіраўніцтва і трэнерскі штаб, каманда будзе выступаць у другой лізе.


Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Тытульным спонсарам ФК «Маладзечна» магла б стаць букмекерская кантора

ФК «Маладзечна» разарваў дагаворы аб супрацоўніцтве з трыма маладзечанскімі кампаніямі – «ММЦ», «Дыліс Касметык», «Маладзечнамэбля». Гэтыя кампаніі павінны былі працаваць з маладзечанскай камандай у першай лізе.

**Аднак ФК «Маладзечна» застаецца ў другой лізе. Нагадаем, што ў камандзе змянілася кіраўніцтва і трэнерскі штаб.**

Таксама стала вядома, што ў клуба, калі б ён выступіў у першай лізе, быў бы тытульны спонсар БК «Леон». Менавіта з ім маладзечанскія футбалісты збіраліся выйсці ў вышэйшую лігу.

**Настасся УТКІНА.**

## Сезон у другой лізе пачнецца 25 красавіка

Чэмпіянат другой лігі будзе падзелены на два дывізіёны, пры гэтым кожны з іх будзе насіць імя вядомых беларускіх футбалістаў: **Эдуарда Малафеева** і **Сяргея Алейнікава**. Сезон пачнецца 25 красавіка.

У дывізіёне Малафеева згуляюць «Баранавічы», «Дынама-Брэст-1960» з Маларыты, «Івацэвічы», «Кронан» са Стоўбцаў, «Меліяратар» з Жыткавічаў, «Стэнлес-ДЮСШ 3» з Пінска, «Маладзечна-2018», «Чайка» з Зэльвы, «Першы Рэгіён» з Кавярдзякаў, «Астравец», «БДУ» і «Тарпеда» з Мінска. «Трактар» з Мінска пакуль пад пытаннем.

У дывізіёне «Алейнікава» будзе выступаць «Днепр-Магілёў», «Асіповічы», «СМІаўтатранс» са Смалявічаў, «Вікторыя» з Мар'інай Горкі, «Горкі», «Полацк-2019», «Бумпрам» з Гомеля, «Жлобін», рагачоўскі «Днепр», петрыкаўскі «Шахцёр», «Энергетык-БДАТУ» з Мінска, «Мазыр».

«Андэрдог» з Чысці, як і мінскае «Тарпеда» з дывізіёна «Малафеева», таксама пад пытаннем.

АБФФ у бліжэйшы час дасць дакладны адказ, ці будуць у другой лізе выступаць «Тарпеда» і «Андэрдог».

**Настасся УТКІНА.**

## Фанаты гродзенскага «Нёмана» просяць спыніць чэмпіянат па футболе

31 сакавіка фанаты гродзенскага «Нёмана» звярнуліся да беларускіх заўзятараў і папрасілі іх заставацца дома, не хадзіць на футбол. Фанаты таксама звярнуліся да старшыні АБФФ Базанава:

– Заклікаем нарэшце набрацца смеласці і спыніць чэмпіянат, як гэта зрабілі ва ўсім свеце.

Нагадаем, што чэмпіянат Беларусі застаецца адзіным у Еўропе, які не спыніўся з-за каранавіруса. У краіне таксама працягваецца фінальная серыя плэй-оф па хакеі. На ўсіх гэтых спаборніцтвах не забаронена знаходзіцца гледачам.

**Аддзел інфармацыі.**

## Беларускія спартсмены будуць трэніравацца на радзіме ў сувязі з пераносам Алімпіяды

У сувязі з рашэннем МАК аб пераносе Алімпійскіх гульняў у Токіа беларускія спартсмены мяняюць свае трэніровачныя планы. Аб гэтым БелТА расказаў прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму **Уладзімір Несцяровіч**.

Паводле яго слоў, на замежных вучэбна-трэніровачных зборах знаходзіцца каля ста беларускіх атлетаў. Мінспорту прыкладае ўсе намаганні, каб яны ў самы бліжэйшыя дні вярнуліся на радзіму.

Ужо вызначаны чатыры базы, дзе прадугледжаны санітарна-эпідэмічны рэжым, медыцынская рэабілітацыя і назіранне за спартыўнымі дэлегацыямі. Выезды за мяжу на вучэбна-трэніровачныя зборы і спаборніцтвы часова адкладзеныя.

32 летнія Алімпійскія гульні, якія павінны былі прайсці ў японскай сталіцы ад 24 ліпеня да 9 жніўня 2020 года, перанеслі на год з-за пандэміі каранавіруса.

**Паводле belta.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Род цвічка з круглай шырокай плешкай, якім прымацоўваюць паперу, тканіну да чаго-небудзь цвёрдага.
2. Сталовы прыбор у выглядзе ручкі з доўгімі зубамі.
4. Ваеннаслужачы; салдат, баец.
5. Пісьмовае распараджэнне; дакумент на атрыманне.
7. Каштарыс прыходаў і расходаў дзяржавы, прадпрыемства або ўстановы на пэўны тэрмін.
8. Ручная агністрэльная наразная зброя з рухомым барабанным магазінам.
11. Прыстасаванне для сядзення на некалькі чалавек у выглядзе нешырокай дошкі на слупках або ножках у парку, на вуліцы.
13. Колючая частка органа самаабароны і нападу некаторых насякомых.
15. Травяністая расліна сямейства льняных, са сцёблаў якой атрымліваюць валакно, а з семя – алей.
17. Група людзей, прызначаная ахоўваць.
19. Самец казы.
21. Міфалагічны вобраз усходнеславянскіх народаў у выглядзе жанчыны з доўгімі распушчанымі валасамі, якая жыве ў вадзе або жыце.
22. Назва горада ў нашым рэгіёне, які перанеслі з аднаго месца на іншае з-за чумы.
23. Працэс утварэння, назапашвання і перыядычнага выдзялення малака ў чалавека і ў самак млекакормячых.
25. Вышэйшая ступень параўнання да прыметніка добры; процілеглае горшы.
26. Кантора, канцылярыя, служба.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Транспартны сродак, прызначаны для перавозкі пасажыраў і грузаў па рэйкавых дарогах.
4. Хімічны элемент, які з'яўляецца асновай усіх арганічных рэчываў у прыродзе.
6. Абрадавае свята ў дзень заканчэння жніва.
9. Раўніна, вялікая ўпадзіна паміж гор ці ўзгоркаў.
10. Чалавек, які мае пазыку.
12. Прыстасаванне для далучэння праводоў да машыны, прыбора, апарата.
14. Кусты некаторых парод вярбы, вінаграду.
16. Грандыёзнасць, незвычайная сіла праяўлення чаго-небудзь, што выклікае вялікую павагу.
18. Загадка, у якой слова або фраза, якія трэба разгадаць, падаюцца ў выглядзе камбінацыі малюнкаў, знакаў і літар.
20. Падзел, размеркаванне.
21. Фізіялагічны працэс выхаду плода з цела маці.
24. Раптоўнае моцнае зніжэнне сардэчнай дзейнасці, якое суправаджаецца слабасцю, часам стратай прытомнасці і пагражае смерцю.

## Адказы на крыжаванку з №13

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Чацвер. 4. Нагода. 5. Унія. 8. Недахоп. 10. Несці. 11. Натоўп. 12. Увішны. 13. Школа. 15. Бульвар. 17. Нафта. 18. Наверх. 19. Фіяска. 20. Шмаравідла. 22. Шкада.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Бярозка. 2. Мадонна. 6. Орган. 7. Шаленства. 9. Іерогліф. 12. Удавец. 14. Босы. 15. Брама. 16. Шапка. 21. Мехіка. 23. Праметэй. 24. Бавіць. 25. Нуакшот. 26. Дзякуй.

● ГАРАСКОП НА 3-9 КРАСАВІКА

## Зоркі раяць заставацца дома


**АВЕН.** Вам захочацца распачаць маштабную дзейнасць, увасобіць у жыццё тое, чаго даўно хацелі. Цяпер самы час заняцца генеральнай прыборкай або падумаць над новай творчай ідэяй. У любым выпадку, заставайцеся дома і ўвасабляйце мары ў рэальнасць.


**ЦЯЛЕЦ.** Ужо доўгі час рукі ніяк не даходзяць да сістэматызацыі. Вам варта гэтым заняцца цяпер – навядзіце парадак у камп'ютары, выканайце справаздачы, якія яшчэ не закрылі. Пакуль вы дома, зрабіце сістэматызацыю, каб аблегчыць сабе жыццё.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вам ужо не хапае гутарак і сустрэч з сябрамі. Але важна падтрымліваць сувязь праз інтэрнэт або тэлефон і са сваякамі і блізкімі, з якімі даўно не размаўлялі. Пакуль вы дома, абзваніце дарагіх людзей і прысвяціце час шчырым размовам.


**РАК.** Выдатны час, каб перавесці кулінарныя здольнасці ў разрад мастацтва. Паспрабуйце прыгатаваць новую страву, паэксперыментуйце са смакам. І вы самі, і вашы блізкія застануцца ў захапленні, што вы засталіся дома.


**ЛЕЎ.** Вам будзе складана ўтаймаваць свой нораў. Захочацца ратаваць свет і дапамагаць усім, каму зможаце. У першую чаргу, неабходна паклапаціцца пра сябе. А калі вы вырашылі схадзіць у магазін, захапіце што-небудзь для пажылога суседа.


**ДЗЕВА.** Пільна сачыце за сваім здароўем. Пакуль застаяцеся дома, выконвайце фізічныя практыкаванні і часцей праветрывайце памяшканні. Не забывайце і пра вільготную прыборку. Няхай у доме будзе прыемная абстаноўка.


**ШАЛІ.** Вам варта заставацца дома, каб як мага больш часу праводзіць з блізкімі. Гэта магчымасць паразмаўляць пра набалелае, падзяліцца думкамі.


**СКАРПІЁН.** Час, калі варта ўтаймаваць гарачую кроў і прыслухоўвацца да меркаванняў экспертаў або мудрых знаёмых. Пакуль застаяцеся дома, паразважайце над тым, чаго вам не хапае, каб адчуваць сябе цалкам задаволеным жыццём.


**СТРАЛЕЦ.** Добры час, каб упарадкаваць дамашнія справы. Магчыма, невялікі касметычны рамонт – справа, якая надоўга засела, а цяпер варта заняцца ёй у поўную сілу.


**КАЗЯРОГ.** Вам вельмі захочацца папрацаваць на зямлі. Магчыма, вырасціць кветку на балконе або пасадзіць у агародзе памідоры – не толькі выклік, але і вялікае задавальненне.


**ВАДАЛЕЙ.** Вам захочацца шмат гуляць і даведвацца пра новае. Заставайцеся дома і гуляйце ў анлайн-гульні. Вам важна добра адпачываць і чытаць кнігі.


**РЫБЫ.** У гэты час вам лепш максімальна расслабіцца і засяродзіцца на сваім адпачынку. Вы сапраўды моцна стаміліся, і тое, што вам цяпер трэба больш за ўсё, – высыпацца і як мага больш адпачываць. Так што заставайцеся дома і дайце сабе час для расслаблення.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 3 | | 4 | 8 | | | | |
| 4 | | 7 | | 5 | 9 | | | |
| 5 | | | | 3 | 6 | 4 | | |
| 9 | | 3 | 5 | | | | | 7 |
| 7 | | | | 9 | 2 | | | |
| 2 | | 6 | | | 8 | | | 4 |
| | 9 | 2 | | | 5 | 7 | | |
| 8 | | | | | 3 | 6 | | |
| | | | | | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



● #РГ25

# Ларыса Сапач, настаўніца беларускай мовы і літаратуры: «Рэгіянальная газета» – газета з добрай назвай і добрым зместам»

**28 красавіка «Рэгіянальная газета» адзначае 25-годдзе. Прымаем віншаванні і ад нашай чытачкі, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Маркаўскай сярэдняй школы Ларысы Сапач:**

– «Рэгіянальная газета» – газета з добрай назвай і добрым зместам… Кожную пятніцу я трымаю ў руках яе свежы нумар і радуюся, што яна ёсць, што яна жывая і актыўная, радуюся, што яна на беларускай мове.

Дзялюся газетай са сваёй мамай. Чытаю яе старонку ў «Фэйсбуку». Газета яднае Маладзечна, Астравец, Смаргонь, Вілейку, Мядзел, Ашмяны і Валожын. Гэта таксама радуе. Дзякуй вам, шаноўныя супрацоўнікі рэдакцыі, за вашу актыўнасць і пазіцыю!



***

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**

## Чытайце праз тыдзень:

● Тут дарослыя ходзяць у краму ў масках і гумовых пальчатках, а дзецям забараняюць выходзіць на вуліцу. Школьнікі вучацца анлайн, а ўся краіна на каранціне ад 12 сакавіка. Ураджэнка Маладзечна, якая жыве ва Украіне, распавяла, як жыве Кіеў ва ўмовах пандэміі.

## 4 красавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 5-6 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -14,6°С у 1963 годзе
Максімальная тэмпература +18,9°С у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,7 мм у 1975 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпішыце на «РГ» сябе і бацькоў. І будзьце здаровыя!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цісьнем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная надпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія планы вам сарваў каранавірус?



**Ларыса Галубнічая, працуе на хлебазаводзе, Вілейка:**
– Ніякіх планаў не было, каб іх сарваў вірус. Жыву, як і раней, толькі імкнуся, па меры магчымасці, заставацца дома.



**Святлана Дорах, рабочая, Маладзечна:**
– Пакуль нічым не перашкодзіў.



**Ганна Разуева, повар, Маладзечна:**
– Былі планы з жыллём: прадаць або памяняць. Сітуацыя з доларам, вядома, змяніла планы. А ў цэлым, пакуль змяненняў асаблівых няма. Працую, як працавала.



**Вікторыя Альшэўская, беспрацоўная, Маладзечна:**
– Не змагла ўладкавацца на працу, хоць і не толькі гэта. У мяне інваліднасць, а аддаленай працы няма. У Беларускім таварыстве інвалідаў па зроку надомную працу закрылі.



**Дзяніс Вярбіцкі, дальнабойшчык, Вілейка:**
– Беспярэшкодна і, не баючыся за сваё здароўе, перасоўваюся як па краіне, так і па свеце.



**Аляксандр Дашкевіч, інструктар-метадыст, Маладзечна:**
– Адмянілі ўсе гарадскія спаборніцтвы па валейболе. Не наведваю спартзалу, у якую вельмі часта хадзіў.



**Ігар Гаўрык, таксіст, Маладзечна:**
– Ніякіх планаў не сарваў, усё ідзе сваім парадкам.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3700 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№14 (1301) 3.04.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 558. Падпісана ў друк у 9.00 2.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.